● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

19 сакавіка 1996 г. аўторак, №№ 73-74 (22876-22877)

# ЗВЯЗДА

## РОЗГАЛАС НАДЗВЫЧАЙНЫ!

### У ОРШЫ — СТРАЛЯЛІ, У КРЫЧАВЕ — ГАРЭЛІ

**14 і 15 сакавіка ў двух вышэйназваных беларускіх гарадах адбыліся даволі непрагодныя і жахлівыя для нашай краіны падзеі, асабліва на ўсходняй яе мяжы.**

У мінулы чацвер, у 19 гадзін 05 хвілін, у Оршы, падчас правядзення спецыяльнай аперацыі па праверцы асоб на прадмет прыналежнасці да бандыцкіх фарміраванняў, у момант затрымання ў зале чакання чыгуначнай станцыі нарадам патрульна-паставой службы двух невядомых па падазрэнню ў крадзяжы рэчаў з аўтаматычных камер захоўвання адзін са злачынцаў, не вымаючы рук з кішэняў паліто, пачаў страляць ва ўпор па работніках міліцыі. Пры гэтым быў паранены старшына міліцыі Кармазінаў. У дзяжурнай часці, куды даставілі зладзеяў, апошнія зноў аказалі ўзброенае супраціўленне, а ў адказ капітан міліцыі Дзям'янаў і міліцыянер Пашкевіч прымянілі табельныя пісталеты і паранілі злачынцаў. Адзін з іх паспеў выхапіць баявую гранату і кінуць яе ў напрамку старшага інспектара-дзяжурнага Дзям'янава, які, ратуючы жыццё сваіх калег і грамадзян, што знаходзіліся паблізу, закрыў яе целам, у выніку чаго атрымаў смяротнае раненне і загінуў на месцы.

Ад выбуху раненні рознай ступені цяжкасці атрымалі сем міліцыянераў і двое грамадзян. Пры гэтым у рэанімацыйнае аддзяленне Аршанскай гарбальніцы ў цяжкім стане трапілі камандзір узвода ППС старшы лейтэнант міліцыі Пераходчанка і начальнік лінейнага пункта міліцыі на станцыі Лепель сяржант Маланухін. Значна пашкоджаны памяшканне дзяжурнай часці станцыі і сродкі аператыўнай сувязі.

Скарыстаўшыся вынікамі выбуху, злачынцы спрабавалі збегчы, аднак дзякуючы своечасова прынятым аператыўна-вышуковым мерам яны былі хутка знойдзены на вуліцах Оршы і, нягледзячы на аказанае ўзброенае супраціўленне, абясшкоджаны. Абодва ад атрыманых у перастрэлках раненняў сканалі ў бальніцы. У іх канфіскавалі зброю, боепрыпасы, падробленыя пашпарты, украдзеныя рэчы. Па факту ўзбуджана крымінальная справа і праводзіцца следства.

А на наступны дзень гора напаткала Крычаў у Магілёўскай вобласці. Уначы, каля 3 гадзін, у маласямейным інтэрнаце завода гумаватэхнічных вырабаў ад пакінутага без дагляду самаробнага награвальнага прыстасавання ўзнік пажар. Загінулі гаспадар пакоя, трое яго суседзяў і двое малалетніх дзяцей, а 11 жыхароў, атруціўшыся чадным газам, зараз ляжаць на бальнічных ложках. Толькі прафесіянальныя дзеянні пажарных і міліцыі выратавалі горад ад бальшых ахвяр.

**Сяргей ХРЫПАЧ,**
**прэс-цэнтр МУС.**

### ПРЭЗІДЭНТ ВЫКАЗАЎ СПАЧУВАННЕ

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванне родным і блізкім пацярпеўшых у выніку пажару, які здарыўся ў ноч з 14 на 15 сакавіка ў маласямейным інтэрнаце завода гумаватэхнічных вырабаў г.Крычава Магілёўскай вобласці.**

Прычынай пажару, як паведаміла камісія, створаная кіраўніком дзяржавы, з'явілася загаранне ліналеуму і мэблі ад электрапліткі ў адным з пакояў інтэрната, дзе, знаходзячыся ў нецвярозым стане, спаў прыватны прадпрымальнік грамадзянін П.

У выніку своечасовых і арганізаваных дзеянняў міліцыі і пажарных на чале з падпалкоўнікам М.Браўсавым пажар удалося лакалізаваць і экстранна эвакуіраваць звыш 60 жыльцоў інтэрната. Медработнікі, якія прыбылі на месца пажару, шпіталізавалі 11 чалавек, але іх намаганні па выратаванню жыцця 7 жыльцоў, якія атруціліся чадным газам, не далі станоўчага выніку.

Аляксандр Лукашэнка даў персанальныя даручэнні старшыні КДБ, міністру ўнутраных спраў, міністру аховы здароўя і старшыні Магілёўскага аблвыканкома аб старанным расследаванні здарэння і аказанні максімальнай дапамогі пацярпеўшым.

Прэзідэнт таксама распарадзіўся аказаць матэрыяльную дапамогу сем'ям загінуўшых.

**БЕЛТА.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА: «ГЭТЫ ГОД БУДЗЕ ПЕРАЛОМНЫМ»

**Паездка Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Гомель была кантрольнага характару. Кіраўніка дзяржавы цікавілі перш за ўсё практычныя вынікі дзейнасці мясцовых прадпрыемстваў і ўладных структур.**

Напярэдадні візіту горад бударажылі чуткі аб магчымай адстаўцы некаторых службовых асоб. Чуткі не пацвердзіліся. Тым не менш, Прэзідэнт на нарадзе з кіраўнікамі выканаўчай улады вобласці вялікую ўвагу ўдзяліў кадравым пытанням. Цяперашняя эканамічная сітуацыя ўжо нікому не дае права на памылку.

Нарада ў Гомелі, на якой прысутнічалі Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, кіраўнік Кабінета Міністраў Міхаіл Чыгір, Тамара Віннікава, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі, была прысвечана не толькі пытанням развіцця паўднёвага рэгіёна краіны. Горад над Сожам — буйнейшы пасля Мінска прамысловы цэнтр Беларусі. Развіццё асобных прадпрыемстваў вобласці — акцыянернага таварыства «Гомельшкло», завода «Крышталь» патэнцыяльна здольна «выцягнуць» не толькі мясцовую эканоміку.

Паводле слоў Тамары Віннікавай, Гомельская вобласць канкурыруе толькі са Швейцарыяй па колькасці банкаў — тут 79 філіялаў буйнейшых банкаў рэспублікі. Аднак фінансавая сістэма Гомельшчыны знаходзіцца ў складаным стане. Прадпрыемствы вобласці, тым не менш, атрымаюць неабходныя сродкі для рэанімавання прамысловай і сельскай гаспадаркі.

Міністр па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Іван Кенік падкрэсліў асабліва становішча рэгіёна ў сувязі з чарнобыльскай трагедыяй.

У ходзе нарады Прэзідэнт прапанаваў акумуліраваць бюджэтныя сродкі, што накіроўваюцца на падтрымку насельніцтва, якое пацярпела ад катастрофы, для рэалізацыі канкрэтных праграм — будаўніцтва водаправодаў, сістэм газазабеспячэння.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў: ліквідацыя льгот для пэўных катэгорый насельніцтва не азначае, што фінансавыя рэсурсы будуць патрачаны на іншыя мэты. Міністр фінансаў Павел Дзік гарантаваў, што ў гэтым годзе будзе сабрана не менш як 4 трыльёны рублёў для ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС. Міністр аховы здароўя Інеса Драбышэўская падтрымала свайго калегу. Нацыя, якая эканоміць на ўласным здароўі, асуджана на выміранне.

Надыходзячая пасяўная кампанія пройдзе ў няпростых умовах. Веснавая паводка сур'ёзна ўскладніць работу вяскоўцаў. Паводле слоў Прэзідэнта, рэспубліка мае дастатковыя рэсурсы для таго, каб перадолець гэта стыхійнае бедства. Кіраўнік дзяржавы заклікаў мабілізаваць усе сілы для паспяховага правядзення сяўбы. Прынамсі, калгасы і саўгасы атрымаюць крэдыты на закупку мінеральных угнаенняў.

**Уладзіслаў ПЛАТУН,**
**БЕЛТА.**

## ЯГО ПРАВАСХАДЗІЦЕЛЬСТВУ АЛЯКСАНДРУ РЫГОРАВІЧУ ЛУКАШЭНКУ, ПРЭЗІДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Ваша Правасхадзіцельства,
глыбокапаважаны Аляксандр Рыгоравіч!

Прыміце сардэчную падзяку за віншаванне з Днём нараджэння і добрыя пажаданні.

Мяне вельмі радуе, што ў Вашай асобе Праваслаўная царква ў Беларусі мае мудрага дзяржаўнага дзеяча, які жыва рэагуе на ўсе яе просьбы і патрэбы. Ведаючы Вас як чалавека, які нястомна клапоціцца аб умацаванні брацкіх вузаў дружбы паміж народамі нашых краін — аб чым красамоўна сведчыць Ваш нядаўні візіт у Маскву, — я мяркую, што пад Вашым кіраўніцтвам Рэспубліка Беларусь з гонарам і годнасцю выйдзе з усіх цяперашніх цяжкасцей.

З асаблівай цеплынёй успамінаю час знаходжання на гасціннай беларускай зямлі, радасць зносінаў з Вамі, мітрапалітам Філарэтам, духавенствам і ўсімі жыхарамі Беларусі. Уражанні ад убачанага і перажытага з удзячнасцю захоўваю ў сваім сэрцы. Спадзяюся на далейшае, такое ж шчырае і плённае, узаемадзеянне.

Дазвольце пажадаць Вам, глыбокапаважаны Аляксандр Рыгоравіч, моцы душэўных і цялесных сіл, мужнасці, цярпення і ўсёмагутнай дапамогі Божай у Вашым штодзённым і вельмі цяжкім служэнні на высокай пасадзе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**З глыбокай павагай**

**+ Алексій**
**ПАТРЫЯРХ МАСКОЎСКІ І ЎСЯЕ РУСІ.**

## «АБ'ЯДНАННЕ НАРОДАЎ НА РАЎНАПРАЎНАЙ АСНОВЕ ПРАДЫКТАВАНА ЧАСАМ»

18 сакавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка запрасіў у рэзідэнцыю кіраўніка дзяржавы шэраг вышэйшых службовых асоб рэспублікі для абмеркавання важных палітычных і сацыяльна-эканамічных праблем, якія датычаць унутранай і знешнепалітычнай сітуацыі.

На нарадзе, у якой прынялі ўдзел Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, дзяржсакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета, віцэ-прэм'еры ўрада і работнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, абмяркоўваліся пытанні беларуска-расійскай інтэграцыі.

Удзельнікі нарады абмеркавалі канцэпцыю дагавора аб стварэнні беларуска-расійскага саюза, які маюць намер падпісаць прэзідэнты Беларусі і Расіі ў канцы сакавіка або пачатку красавіка гэтага года.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што вядомае рашэнне Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі можа паскорыць працэс яднання Беларусі і Расіі, іх народаў, які ініцыіравала сумленная і шчырая палітычная воля прэзідэнтаў гэтых дзяржаў.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што аб'яднанне народаў на раўнапраўнай, цывілізаванай аснове прадыктавана самім часам. Спяшыць ёсць немагчыма. Цяпер важна аб'яднаць усе разумныя палітычныя сілы Беларусі і Расіі, якія гатовы аказаць садзейнічанне двум прэзідэнтам у выпраўленні памылак мінулага.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка рэкамендаваў Вярхоўнаму Савета разгледзець на пленарным пасяджэнні пытанне паскарэння інтэграцыі Беларусі і Расіі ў кантэксце пастановы, прынятай Дзяржаўнай думай Расійскай Федэрацыі.

Аляксандр Лукашэнка выказаў сваю гатоўнасць прыняць удзел у пасяджэнні Вярхоўнага Савета, калі беларускі парламент падтрымае прапанову Прэзідэнта, паведамілі ў Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

## ТЭЛЕГРАМА АЛЯКСАНДРУ ЛУКАШЭНКУ

**Кіраўнік Адміністрацыі Мурманскай вобласці Я.Б.Камароў даслаў тэлеграму Прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку, у якой гаворыцца:**

«Паважаны Аляксандр Рыгоравіч!

Адміністрацыя Мурманскай вобласці шчыра дзякуе за Вашы намаганні па развіццю інтэграцыйных працэсаў паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй.

Мы ўсебакова падтрымліваем намаганні кіраўніцтва Рэспублікі па рэалізацыі гэтай важнейшай работы на рэгіянальным узроўні, ажыццяўляючы яе ў рамках пагадненняў аб супрацоўніцтве Мурманскай вобласці з суб'ектамі Рэспублікі Беларусь.

Праведзеная 27.02.96-02.03.96 г. у г.Мурманску выстаўка «Беларусь-96» і стварэнне расійска-беларускага гандлёвага дома «Белнорд» з'явіліся асновай для прасоўвання рынку беларускіх тавараў на Поўнач, Паўночны Захад і краіны Скандынавіі.

Са свайго боку вобласць гатова супрацоўнічаць з усімі структурамі рэспублікі з улікам зацікаўленасці Беларусі ў сыравінных рэсурсах, энерганосьбітах і транспартных магчымасцях вобласці.

Былі б шчыра рады Вашаму наведванню Мурманскага Запаляр'я ў зручны для Вас час».

**БЕЛТА.**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

### Аб індэксе спажывецкіх цэн за люты 1996 года

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў лютым 1996 года ў параўнанні са студзенем 1996 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 104 працэнты.

У параўнанні са снежнем 1995 года цэны на спажывецкія тавары і паслугі ўзраслі ў 1,1 раза.

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь.**

## АБ ПАМЕРЫ ЎТРЫМАННЯ З НАЙМАЛЬНІКАЎ СРОДКАЎ ДЛЯ ЗАБЕСПЯЧЭННЯ СВОЕЧАСОВАЙ ВЫПЛАТЫ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ

У сувязі з апублікаваннем за люты 1996 г. індэкса спажывецкіх цэн Міністэрства працы і Міністэрства статыстыкі і аналізу **паведамляюць**.

У лютым мінімальны спажывецкі бюджэт на аднаго члена сям'і з чатырох чалавек склаў 1015373 /976320 х 1,04/ рублі ў месяц.

Згодна з пастановай Мінпрацы і Мінстата ад 22.02.1996 г. № 13/4 для забеспячэння своечасовай выплаты заработнай платы неабходна ўтрымліваць з наймальнікаў суму ў памеры 60 працэнтаў МСБ, гэта значыць 609.220 рублёў на кожнага работніка (1015373 х 60 : 100).

Указаны нарматыў прымяняецца з дня апублікавання ў друку пры падачы заяўкі для атрымання сродкаў на заработную плату і пагашэння яе запазычанасці незалежна ад тэрмінаў утварэння.

**БЕЛТА.**

# КАЛІНІНГРАД МОЖА СТАЦЬ НЕ ТОЛЬКІ «АКНОМ У ЕЎРОПУ», АЛЕ І ВЫГАДНЫМ ПАРТНЁРАМ

Пытанням актывізацыі двухбаковых адносінаў паміж Рэспублікай Беларусь і Калінінградскай вобласцю Расіі ў святле апошніх рашэнняў прэзідэнтаў абедзвюх краін Аляксандра Лукашэнкі і Барыса Ельцына былі прысвечаны перагаворы прэм'ер-міністра нашай рэспублікі Міхаіла Чыгіра з дэлегацыяй вобласці, на чале з кіраўніком яе адміністрацыі Юрыем Матачкіным. Сустрэча адбылася 14 сакавіка.

Як адзначыў пасля заканчэння гутаркі беларускі прэм'ер, у нашай рэспублікі і Калінінградскай вобласці вельмі шмат сустрэчных інтарэсаў. Гэта датычыць прамысловасці, сельскай гаспадаркі, паставак у Беларусь рыбнай прадукцыі, выкарыстання нашай рэспублікай калінінградскіх портаў. Міхаіл Чыгір выказаў думку, што ва ўзаемаадносінах Беларусі з самай заходняй вобласцю Расіі апошнім часам даволі шмат упушчана. Паводле яго слоў, гэта было абумоўлена ў большай меры транспартнымі праблемамі, якія, як лічыць прэм'ер, у бліжэйшы час павінны быць вырашаны. Шматабяцальнымі, на думку Міхаіла Чыгіра, павінна стаць супрацоўніцтва ў сельскагаспадарчай галіне. Беларускія жывёлагадоўчыя комплексы маюць вострую патрэбу ў рыбнай муцэ, ды і калінінградцы не адмовяцца ад беларускага мяса. Наогул жа прэм'ер выказаў меркаванне, што ў бягучым годзе Беларусь па ўзроўню гандлю з Расіяй мяса-малочнай прадукцыяй можа выйсці на рубяжы 1990 года.

Юрый Матачкін у сваю чаргу адзначыў, што вялікая ўвага ў ходзе перагавораў удзялялася праблеме выкарыстання калінінградскіх портаў для транспарціроўкі беларускіх экспартна-імпартных грузаў. Што датычыць перспектывы далейшага супрацоўніцтва ў гэтай галіне, то адміністрацыя вобласці, паводле слоў яе кіраўніка, прапанавала Беларусі стварыць фінансава-прамысловыя групы па будаўніцтву суднаў, выкарыстанню портаў і па стварэнню беларускай суднаходнай кампаніі. Акрамя таго, кіраўніцтва вобласці выказала гатоўнасць прадаставіць нашай рэспубліцы прычальныя лініі для адгрузкі і разгрузкі беларускіх суднаў.

На пытанне журналістаў, якім жа портам Беларусь у перспектыве мае намер аддаць прыярытэт, Міхаіл Чыгір падкрэсліў, што ўсё будзе залежаць ад сукупнасці фактараў. У прыватнасці, гэта будзе вызначацца прадастаўляемымі для грузаадпраўшчыка пад'язнымі пуцямі, месцамі для захоўвання і, вядома ж, тарыфамі на перавозку грузаў. Цяпер Беларусь у большай ступені карыстаецца паслугамі портаў у краінах Балтыі. Праўда, як падкрэсліў Міхаіл Чыгір, калі ў ходзе гэтых перагавораў будуць унесены прапановы па больш ільготнаму выкарыстанню рэспублікай Калінінградскага порта, то, зусім магчыма, дадатковая частка беларускіх грузаў пойдзе менавіта праз Калінінград.

Цёплай і дружалюбнай была сустрэча расійскага госця з прэзідэнтам краіны Аляксандрам Лукашэнкам, праведзеная ў гэты ж дзень.

— Супрацоўніцтва Беларусі і Калінінградскай вобласці Расіі даўняе і мае свае традыцыі, — сказаў кіраўнік дзяржавы. — Мы заўсёды атрымлівалі адтуль прыродны газ, кокс, рыбу. Маем патрэбу ў гэтай прадукцыі і цяпер. З задавальненнем адзначаю, што тавараабарот паміж нашымі рэгіёнамі расце і сёння яго аб'ём перавышае гандаль з іншымі краінамі.

А.Лукашэнка падкрэсліў, што ўзаемнае імкненне да яшчэ больш цесных адносінаў не будзе на шкоду суседзям — Польшчы і Літве. «Наадварот, — заявіў ён, — калі ім будзе выгадна стаць нашымі эканамічнымі партнёрамі, няхай далучаюцца».

Абодва бакі былі аднадушныя ў думцы, што ўзаемавыгаднае збліжэнне спрыяльна адаб'ецца і на палітычнай сітуацыі ў Беларусі і Расійскай Федэрацыі.

— Этнічныя беларусы, 75 тысяч якіх жывуць цяпер у паўночна-заходнім анклаве Расіі, адчуюць сябе бліжэй да радзімы, — сказаў А.Лукашэнка.

Пасля сустрэчы з Прэзідэнтам члены дэлегацыі Калінінградскай вобласці сустрэліся з калегамі ў Мінскім аблвыканкоме.

Па выніках візіту ў Мінск прадстаўнікоў Калінінградскай вобласці Расіі ў Кабінеце Міністраў Беларусі адбылося падпісанне шэрага двухбаковых пагадненняў. У прыватнасці, падпісаны пагадненні аб супрацоўніцтве паміж Калінінградскай вобласцю і Мінскай і Гродзенскай абласцямі нашай рэспублікі, пагадненні аб супрацоўніцтве адміністрацыі вобласці з адпаведнымі міністэрствамі Беларусі ў гандлёвай сферы, у сферы транспарту, адукацыі і навукі, будаўніцтва.

Візіт у Мінск кіраўніка адміністрацыі Калінінградскай вобласці Расіі Юрыя Матачкіна завяршыўся брыфінгам для беларускіх і замежных журналістаў.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 25 студзеня 1996 г. № 31 «Аб удасканаленні дзяржаўнай грашова-крэдытнай палітыкі» прыняў пастанову аб змяненні парадку продажу і куплі замежнай валюты.

Устанавіць, гаворыцца ва ўказанай пастанове, што:

не падлягае абавязковаму продажу замежная валюта, накіраваная на працягу 60 дзён з дня яе паступлення на набыцце тэхналагічнага абсталявання, якое выкарыстоўваецца для ўласнай вытворчасці, а таксама на пагашэнне крэдытаў, атрыманых на набыццё тэхналагічнага абсталявання, сыравіны, матэрыялаў, камплектуючых вырабаў і энерганосьбітаў, што выкарыстоўваюцца для ўласнай вытворчасці, і выплату працэнтаў за карыстанне гэтымі крэдытамі;

Юрыдычныя асобы і прадпрымальнікі без утварэння юрыдычнай асобы вызваляюцца ад збору ў памеры 10 працэнтаў ад сумы валютных сродкаў, набытых на Міжбанкаўскай валютнай біржы, пры куплі валюты або абмене аднаго віду свабодна канверсуемай валюты (расійскіх рублёў) на другі від свабодна канверсуемай валюты (расійскіх рублёў)/ для набыцця тэхналагічнага абсталявання, гербіцыдаў і ядахімікатаў, а таксама пагашэння атрыманых на гэтыя мэты крэдытаў і выплаты працэнтаў за карыстанне імі.

Гэта пастанова ўводзіцца ў дзеянне з 20 сакавіка 1996 года.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў АСОБАХ

**Так можна сказаць пра людзей, якія сабраліся на сустрэчу ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь 15 сакавіка.**

У гэты ўрачысты дзень, калі наша рэспубліка адзначала другую гадавіну з дня прыняцця новай Канстытуцыі, кіраўнік парламента Сямён Шарэцкі прыняў групу былых кіраўнікоў рэспублікі, чыя палітычная і грамадская дзейнасць на працягу дзесяцігоддзяў была непарыўна звязана з гісторыяй Беларусі. Сярод іх — старшыні Вярхоўнага Савета мінулых скліканняў Іван Шамякін, Іван Навуменка, Станіслаў Шушкевіч, Мечаслаў Грыб, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Георгій Таразевіч, старшыні Савета Міністраў Аляксандр Аксёнаў, Міхаіл Кавалёў, Вячаслаў Кебіч, іншыя вядомыя дзеячы.

Павіншаваўшы гасцей са святам, Сямён Шарэцкі адзначыў, што з прыняццем Асноўнага Закона, які абвясціў вышэйшай каштоўнасцю чалавека, Рэспубліка Беларусь паднялася на больш высокую ступень дзяржаўнага будаўніцтва і дэмакратычных пераўтварэнняў, што ў новай Канстытуцыі ўлічаны ўсе лепшыя напрацоўкі папярэдніх пакаленняў заканадаўцаў і палітыкаў. Асаблівыя словы падзякі Сямён Шарэцкі выказаў у адрас непасрэдных яе стваральнікаў — кіраўнікоў Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання Мікалая Дзямянцея, Станіслава Шушкевіча, Мечаслава Грыба.

На думку спікера парламента, для таго, каб пабудаваць сацыяльна-прававую дзяржаву, неабходна правесці вялікую работу па напаўненню канкрэтным зместам закладзеных у Канстытуцыі прынцыпаў.

У гэтым напрамку і збіраюцца працаваць у бліжэйшай будучыні беларускія заканадаўцы. Сямён Шарэцкі адзначыў, што бачыць задачу цяперашняга саставу парламента ў тым, каб прадоўжыць усе добрыя традыцыі, накіраваныя на карысць чалавека і дзяржавы.

У сустрэчы з былымі кіраўнікамі рэспублікі прынялі ўдзел прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, намеснікі Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка і Юрый Малумаў, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

## ВЫПЛАТА ЗАРПЛАТЫ ПАД ПІЛЬНАЙ УВАГАЙ

**З мэтай забеспячэння вяртання крэдытаў, выдадзеных на выплату зарплаты, Кабінет Міністраў Беларусі дазволіў прымаць у залог асноўныя фонды дзяржаўных прадпрыемстваў, накіроўваць у першачарговым парадку выручку ад рэалізацыі прадукцыі, іншыя паступленні на рахункі прадпрыемстваў па пагашэнню ўзятых імі крэдытаў.**

Выказана просьба паскорыць разгляд хадайніцтваў міністэрстваў, ведамстваў, прадпрыемстваў і выдачу крэдытаў, каб пагасіць запазычанасць па зарплаце.

Пры заключэнні крэдытных дагавораў банкі павінны мець на ўвазе, што такія крэдыты павінны быць вернуты да 20 красавіка, а працэнтная стаўка па іх павінна набліжацца да памеру стаўкі рэфінансавання. Акрамя таго, ёсць дазвол выдаваць гэтыя крэдыты нават пры наяўнасці запазычанасці фонду сацыяльнай абароны і па страхавых плацяжах.

**Дзмітрый ГРЫВЕНСКІ.**

## ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

**Рэдакцыя «Звязды» просіць прабачэння ў сваіх падпісчыкаў і пастаянных чытачоў за тое, што папярэдні нумар газеты выйшаў са спазненнем. Позна ўвечары 13 сакавіка з выдавецтва «Беларускі Дом друку» паведамілі, што не будуць друкаваць «Звязду», бо рэдакцыя не поўнасцю аплаціла адпаведныя рахункі. Як высветлілася потым, рахункі былі аплачаны ў той жа дзень, аднак знайсці па хатніх тэлефонах каго-небудзь з кіраўніцтва выдавецтва ноччу для ўзгаднення гэтай праблемы не ўдалося. Па сутнасці, фармальныя непаразуменні паміж дзвюма бухгалтэрыямі сталі прычынай несвоечасовага выхаду чарговага нумара.**

Стасункі ж «Звязды» з выдавецтвам «Беларускі Дом друку» (першапачатковая назва, між іншым, выдавецтва «Звязда») — вельмі даўнія, вельмі трывалыя. У наступным годзе выдавецтву, як і «Звяздзе», споўніцца 80 гадоў. І за ўвесь гэты час не было такіх непадуладных здаровай логіцы непаразуменняў, як надзвычайнае здарэнне на мінулым тыдні. Былі сумесныя «начлегі» паліграфістаў і журналістаў — калі па тэлетайпах аж да раніцы ішлі справаздачы аб «эпахальных» рашэннях чарговага «гістарычнага» партыйнага з'езда. Былі — і засталіся! — узаемныя цёплыя віншаванні ў дні нашых агульных прафесіянальных і чалавечых святаў. Былі — і ёсць, і, відаць, будуць, — дробныя лакальныя канфлікты вытворчага плана: то газета на некалькі хвілін спозніцца з графікам (хочацца паставіць у нумар самыя свежыя навіны), то выдавецтва няякасна аддрукуе тыраж (газетная тэхналогія зараз новая, выдавецкае абсталяванне — старое) — звычайныя вытворчыя праблемы, якія вырашаюцца, адпрацоўваюцца, не абвастраюцца, бо ёсць агульнае жаданне даваць чытачам якасную па зместу і форме прадукцыю. Здаралася, што газета не мела ў дзень выхаду ні грама паперы і ні «зайца» грошай на набыццё апошняй, але выручалі калегі, выручала тое ж выдавецтва: не апошні дзень жывём, заўтра ролі могуць памяняцца, нам разам трэба выжыць і не пазбавіць людзей іх канстытуцыйнага права на атрыманне інфармацыі.

На жаль, у той дзень падыход аказаўся іншым...

Як бы там ні было, рэдакцыя не здымае ўласнай адказнасці і яшчэ раз — за сябе і за іншых — просіць прабачэння.



## Мяса на Камароўцы зноў у цане

**Рознічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г.Мінска на 17.03.96 г. (тыс.рублёў):**

**Мяса, птушка (кг):**
свініна 23—60
цяляціна 26—45
ялавічына 20—40
бараніна 26—50
куры, гусі 19—31

**Сала (кг):**
свежае 25—30
салёнае 25—40.

**Малочныя прадукты:**
малако (л) 4—8
тварог (кг) 18—30
смятана (кг) 20—30
масла (кг) 40—45.

**Яйкі (дзес.) 16-17.**
Мёд (кг) 60—70.
Алей (л) 15—17.

**Крупы (кг):**
рыс 6—11
грэчка 7—12
Цукар 6,8—10.
Фасоль (кг) 12—20
Гарох (кг) 8—12.

**Агародніна (кг):**
бульба 4—6
капуста 8—15
морква 6—15
рэпчатая цыбуля 5—8
зялёная цыбуля 60—100
часнок свежы 15—30
часнок марынаваны 30—35
буракі 5-6.

За мінулыя два тыдні на сталічным Камароўскім рынку змены цэн на прадукты закранулі ў асноўным мяса і садавіну. Так, на 10 тыс.руб. падаражэлі свініна і бараніна, на 5 тыс.руб. — капуста і морква. А вось свежы часнок на 5 тыс.руб. патаннеў. Затое цэны на «заморскія» бананы крыху падняліся — зноў жа на 5 тыс.рублёў.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 11 (30)




## ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### ПРАДАЕЦЦА

**Дом** з гаспадарчымі пабудовамі, калодзеж, лазня ў двары, участак 0,4 га ў Гомельскай вобл., пасёлак Акцябрскі.
Тэл. (0172) 32-85-40.

У Івянцы (60 км ад Мінска) новы **дом** з мансардай, 160 кв.м (без унутраных работ) побач лес, рэчка.
Тэл. (8-293) 34-4-52 вечарам.

**Трохпакаёвая кватэра**, 70/49/10 кв.м, ізаляваныя, цэнтр, цэгла, 2 балконы.
Тэл.: 66-90-21, 58-91-98.

**Аўтамабіль** М-412, 82 г.в., у добрым стане, нядорага. Званіць пасля 18 гадзін.
Тэл. (0172) 55-43-87.

**Кухню** «пад дрэва» або зраблю па заказу (170 $).
Тэл. (01634) 4-01-15.

**Дом** з гаспадарчымі пабудовамі і агародам у в. Тальміновічы Ляхавіцкага раёна.
Тэл. (8-233) 5-47-45.

**Зруб** 5x5 м з пласцін, высечка h-2,5 у чысты вугал, на шыпах.
Віцебская вобл. Шуміліна, тэл. 2-76-46.

**Дом** ва Уздзе з садам, агародам, ля ракі, ёсць тэлефон, прыродны газ. За 5000$.
Тэл. (8-218) 55-705.

**ВАЗ-2102** у добрым стане, нядорага.
Тэл. (0172) 92-51-14.

У цэнтры Нясвіжа двухпавярховы **дом**, 200 кв. м, усе выгоды, гараж-склад 50 кв. м, насупраць возера, парк.
Тэл. (8-01634) 6-46-57.

**Дом** 7x9 з гаспадарчымі пабудовамі, сад 40 дрэў, участак 35 сотак, 8 км ад Слуцка.
Тэл. у Слуцку 2-22-56 пасля 19;
у Гродне 33-68-97.

**Дом** у Слонімскім раёне Гродзенскай вобл.
Тэл. (0172) 2-64-49-84.

**Дом** з пабудовамі ў Чашніцкім раёне Віцебскай вобл., в. Латыголічы. Нядорага, можна пад знос. Л. Бабаед.

Тэрмінова прадаю **«Опель-Рэкорд»**, 1983 г. в., бензін, аб'ём 2000 куб. м, у добрым стане, цана дагаворная.
Тэл. (8-270) 4-71-39, 5-33-39.

### МЯНЯЮ

**3-пакаёвую кватэру** (ёсць дача) у Дуброўна на 1-, 2-пакаёвую ў Оршы, Віцебску, Магілёве або прадам.
Тэл. у Дуброўна 2-24-88.

**1-пакаёвую кватэру** ў Мінску з даплатай на 2-пакаёвую прыватызаваную з тэлефонам.
Тэл. (0172) 58-00-09.

**3-пакаёвую прыватызаваную кватэру** 63/42 кв. м (Плешчаніцы) у 2-кватэрным цагляным доме з верандай і прысядзібны ўчастак на кватэру ў Лагойску, Мінску.
Тэл. у Лагойску (8-274) 5-74-08.



*Ад усяго сэрца віншуем дарагую мамачку і бабулю (в. Літвіновічы) з днём нараджэння. Жадаем усяго найлепшага.*

*Сям'я Хадановічаў.*

*Віншуем з днём нараджэння дарагіх нам людзей: сына Сераду М. М., унука Сераду М. М., пляменнікаў Пракаповіча С. І., Фёдарава Ф. Л. Здароўя, шчасця, радасці ўсім.*

*Серада В. Ф.*
*Старобін.*

Згубленае пасведчанне ліквідатара наступстваў аварыі на ЧАЭС № 077393 серыі А, выдадзенае на імя АФАНАСЬЕВА Генадзя Дзмітрыевіча, лічыць несапраўдным.

Згубленае пасведчанне ўдзельніка ВАВ № 971159 серыі В, выдадзенае на імя ЕРАШЭНКІ Паўла Сафронавіча, лічыць несапраўдным.

### РОЗНАЕ

Куплю скрыпку старадаўнюю. Пісаць: 224013, г. Брэст-13, а/с 22.

Электрамантаж, падключэнне электраабсталявання, перанос разетак.
Тэл. (0172) 263-10-22.

Атрыманне ў хатніх умовах вядомага напою «чайны грыб». Адкажу ўсім, дашліце канверт на адрас: 222120, Барысаў-8, а/с 187.

Мяняю дом з хлевам, участкам 20 сотак у Гарадзеі на кватэру ў Мінску з даплатай.
Тэл. 24-40-80.

Праектуем і выконваем тэхналагічную аснастку (штампы, рэжучы інструмент і г. д.), ліцейныя формы і фрэзы для абутковай вытворчасці.
Тэл. у Віцебску: 4-79-21, 4-65-87.

Болей за 20 рэцэптаў атрымання спірту з разнастайнай сыравіны. Ваш канверт. 225650, Лунінец, а/с 12.

Прапаную працу на даму, заробак ад 250$, ад вас канверт з адрасам.
Гомельская вобл., Жлобінскі р-н, в. Гадуша, 59/22.



**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай аб'явы**

**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**

**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Пазначце паштовае аддзяленне, якое дастаўляе Вам "Звязду".**

**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**Тэлефон для даведак 68-28-71.**

**Ксеракопія купона не прымаецца.**

БЕЛАРУСКІ АКЦЫЯНЕРНЫ КАМЕРЦЫЙНЫ ПРАМЫСЛОВА-БУДАЎНІЧЫ БАНК

# «БЕЛПРАМБУДБАНК»

***Сёння без перабольшання можна сказаць, што, нягледзячы на цяжкасці ў эканамічным і сацыяльным развіцці рэспублікі, удалося мо самае галоўнае — захаваць яе прадукцыйны патэнцыял, асабліва ў вядучых галінах вытворчасці. І ў гэтым пэўная заслуга аднаго з самых старэйшых і аўтарытэтных банкаў краіны — АКБ «Белпрамбудбанка», які крэдытуе і абслугоўвае найбольш буйныя прадпрыемствы.***

***22 сакавіка ў жыцці яго супрацоўнікаў знамянальная падзея — штогадовы сход акцыянераў. Сённяшні наш выпуск мы і прысвячаем гэтаму.***

***У матэрыялах спецвыпуску супрацоўнікі банка дзеляцца працоўнымі здабыткамі, планамі на перспектыву. Тут знайшлі адлюстраванне крэдытная і інвестыцыйная дзейнасць Белпрамбудбанка, аперацыі з каштоўнымі паперамі і замежнай валютай, новыя формы работы з кліентамі, пытанні кадравай палітыкі.***

## ЗВАРОТ ДА АКЦЫЯНЕРАЎ, КЛІЕНТАЎ, КАРЭСПАНДЭНТАЎ І ПЕРСАНАЛУ

### Дамы і панове!

Для нас вялікі гонар заявіць, што, нягледзячы на супярэчлівыя фінансава-эканамічныя ўмовы, якія склаліся ў 1995 годзе, Белпрамбудбанк яшчэ раз пацвердзіў сваю лідзіруючую ролю ў падтрымцы і інтэнсіфікацыі рыначных рэформаў у Беларусі, умацаваў рэпутацыю саліднай, аўтарытэтнай і высокарэнтабельнай фінансавай установы.

Адлюстраваныя ў гэтай гадавой справаздачы фінансавыя вынікі за 1995 год дасягнуты за кошт прымянення больш прагрэсіўных прынцыпаў кіравання капіталам, дыверсіфіцыраванага размяшчэння актываў і высокапрафесіянальных паслуг, што аказваюцца нашым кліентам персаналам банка. Мы змаглі павялічыць уласны капітал да 469 мільярдаў рублёў, кансалідаваныя актывы дасягнулі амаль 4 трыльёнаў рублёў. 77-працэнтны рост дасягнуты дзякуючы эфектыўнай рабоце шырокай сеткі філіялаў і цэнтраў банка рэспублікі, якія забяспечваюць нашу прысутнасць ва ўсіх рэгіянальных дзелавых цэнтрах і дазволілі павялічыць колькасць кліентаў банка да 423 тысяч. Актыўнае і прафесіянальнае выкарыстанне сістэм SWIFT і Reuters Dealing зрабіла банк адным з лідэраў у міжнароднай банкаўскай справе Беларусі, а таксама прызнаным дзелавым партнёрам 460 нашых банкаў-карэспандэнтаў.

Крэдытная палітыка Белпрамбудбанка была і традыцыйна застаецца накіраванай на падтрымку сучасных тэхналогій і вытворчасць высокаканкурэнтнай прадукцыі. Крэдыты, выдадзеныя пад такія праекты, склалі 3,8 трыльёна ў нацыянальнай валюце і 70 мільёнаў долараў ЗША — у СКВ.

У 1995 годзе быў зроблены апошні крок на шляху нашай інтэграцыі ў міжнародную банкаўскую сістэму — Белпрамбудбанк завяршыў пераход на міжнародныя стандарты бухгалтарскай справаздачнасці ў строгай адпаведнасці з устаноўленымі Нацыянальным банкам тэрмінамі.

Усё вышэйсказанае дазволіла нам стварыць умовы, неабходныя для вырашэння буйнамаштабных задач у надыходзячым годзе, хоць мы разумеем, што пажаданыя вынікі могуць быць дасягнуты толькі пры стараннай і зладжанай рабоце персаналу, далейшай падтрымцы нашай палітыкі з боку акцыянераў і захаванні даверу нашых кліентаў.

Ад імя праўлення і калектыву банка мы дзякуем вам за супрацоўніцтва, якое працягваецца, і ўклад у вынікі 1995 года. Мы верым у наша будучае працвітанне і гатовы прыкласці для гэтага ўсе намаганні.

**З павагай,**
**Леанід КАЛУГІН,**
**старшыня праўлення,**
**Мікалай РАКАЎ,**
**генеральны дырэктар.**



**Цесныя кантакты ўсталяваліся паміж Белпрамбудбанкам і акцыянерным таварыствам «Атлант». У тым, што вядомыя ў свеце халадзільнікі маркі «Мінск» набываюць якасна новыя характарыстыкі, расце іх выпуск, немалая заслуга банка, крэдыты якога ўдала працуюць на расшырэнне вытворчасці хадавога тавару. Больш таго, старшынёй праўлення банка ўжо не першы год выбіраецца генеральны дырэктар «Атланта» Леанід Іванавіч КАЛУГІН (на здымку).**

**Часта бывае ў вытворчых калектывах рэспублікі генеральны дырэктар Белпрамбудбанка Мікалай Якаўлевіч РАКАЎ. Вось і на гэты раз фотакарэспандэнт зняў яго ў час знаёмства з найноўшым сырзаводам нямецкай вытворчасці, які паспяхова дзейнічае ў вядомым у рэспубліцы калгасе імя Суворава Пастаўскага раёна. Пасля кожнай такой паездкі, дзелавых сустрэч значна павялічваецца колькасць кліентаў банка.**

**На здымку: Мікалай РАКАЎ (злева) і старшыня калгаса Алег ВАЛАДЗЬКО знаёмяцца з вытворчасцю.**





## АЎТАРЫТЭТ БАНКА

***Галіна ТЫШКЕВІЧ, начальнік Гродзенскага абласнога ўпраўлення Белпрамбудбанка***

ГРОДЗЕНСКАЕ абласное ўпраўленне Белпрамбудбанка, у састаў якога ўваходзяць 10 філіялаў, абслугоўвае 1440 кліентаў, з іх 20 працэнтаў — дзяржаўныя прадпрыемствы, 42 працэнты — камерцыйныя структуры, 33 працэнты складаюць прадпрымальнікі з утварэннем і без утварэння юрыдычнай асобы. Акрамя таго, ва ўпраўленні абслугоўваецца больш за 40 тысяч укладчыкаў.

З мэтай паляпшэння культуры абслугоўвання на шэрагу буйных прадпрыемстваў вобласці адкрыты 14 разліковых цэнтраў банкаў, у тым ліку на вытворчых аб'яднаннях «Радыёхваля», «Хімвалакно», «Ваўкавыскцэменташыфер», «Лакафарба» і іншых. Тут разам з разліковым абслугоўваннем прадпрыемстваў аказваюцца паслугі па захоўванню свабодных сродкаў ва ўкладах, з дыферэнцыраваным падыходам у залежнасці ад тэрмінаў і сум захоўвання.

Не маючы кліентаў з вялікімі рэшткамі свабодных сродкаў на разліковых рахунках, упраўленне арганізавала работу па мабілізацыі свабодных сродкаў насельніцтва ва ўклады і цалкам забяспечыла рэсурсамі ўсе філіялы вобласці.

Даходнае размяшчэнне ўласных прыцягнутых сродкаў дазволіла атрымаць у 1995 годзе па вобласці ад усіх відаў дзейнасці 226 мільярдаў рублёў даходу, у тым ліку ад крэдытных аперацый — 82 працэнты, а ад валютных аперацый — 10 працэнтаў. Прыбытак склаў 22,4 мільярда рублёў.

У Гродзенскім абласным упраўленні АК «Белпрамбудбанка» вялікая ўвага ўдзяляецца рабоце з насельніцтвам. Аддзяленні і разліковыя цэнтры банка прымаюць рублёвыя ўклады і ўклады ў замежнай валюце, прычым на самых выгадных для ўкладчыкаў умовах, на тэрмін ад 15 дзён да 6 месяцаў. Працэнтныя стаўкі па тэрміновых укладах — адны з самых высокіх. Уклады насельніцтва ў беларускіх рублях за 1995 год выраслі ў 9,5 раза, у замежнай валюце — у 2,3 раза.

На буйных прадпрыемствах горада і вобласці адкрыты разліковыя цэнтры банка, якія выплачваюць заработную плату. Праз іх выплачваецца заработная плата на такіх буйных прадпрыемствах, як вытворчае аб'яднанне «Хімвалакно», «Радыёхваля» і інш.

Укладчыкі, якія ўнеслі грашовыя сродкі ў наш банк, не рызыкуюць, таму што ўсе ўклады ў рублях і ў замежнай валюце застрахаваны ў страхавых кампаніях і ў Нацыянальным банку РБ.

Упраўленне банка па Гродзенскай вобласці ажыццяўляе кароткатэрміновае і доўгатэрміновае крэдытаванне прадпрыемстваў і арганізацый усіх формаў уласнасці і фізічных асоб. Толькі за 1995 год выдадзена 368 мільярдаў рублёў крэдытаў. Пры гэтым ажыццяўляецца доўгатэрміновае крэдытаванне інвестыцыйных праектаў і праграм, у тым ліку жыллёвага будаўніцтва.

Традыцыйным відам паслуг банка вобласці з'яўляецца факторынг. За 1995 год уступлена банку плацежных патрабаванняў на 34,3 мільярда рублёў. Гэты від паслуг спрыяе паскарэнню разлікаў у народнай гаспадарцы і абарачальнасці абаротных сродкаў пастаўшчыкоў.

Банк аказвае кліентам шырокамаштабны спектр паслуг па выдачы гарантый, аваліраванню вэксаляў, ажыццяўленню ўсіх відаў і формаў разлікаў.

У сучасных умовах адным з паказчыкаў функцыянавання банка з'яўляецца тое, наколькі паспяхова ажыццяўляюцца валютныя аперацыі. Упраўленне практычна праводзіць тыя ж аперацыі, што і галаўны Белпрамбудбанк, дазволеныя валютным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Прапануемы спектр банкаўскіх паслуг уключае адкрыццё і абслугоўванне валютных рахункаў, міжнародныя разлікі, правядзенне аперацый на Міжбанкаўскай валютнай біржы, прыняцце ўкладаў насельніцтва ў валюце, аказанне кансультацыйнай дапамогі ў частцы разлікаў па заключаемых кантрактах, пакупку і продаж наяўнай валюты.

Ва ўпраўленні і аддзяленнях у Гродне, Лідзе, Ваўкавыску, Смаргоні, Шчучыне адкрылі валютныя рахункі важнейшыя прамысловыя і будаўнічыя прадпрыемствы вобласці. Абароты па адкрытых рахунках за 1995 год склалі больш за 16 мільёнаў долараў. Разлікі ажыццяўляюцца з дапамогай сеткі карэспандэнцкіх рахункаў Белпрамбудбанка, адкрытых у краінах далёкага і блізкага замежжа. Мы гатовы зрабіць аплату практычна ў любую краіну свету.

Пакупка і продаж наяўнай валюты ажыццяўляецца 38 абменнымі пунктамі валюты як у горадзе Гродне, так і па вобласці. Новы від паслуг, які мы прапануем сёння — гэта продаж і аплата камерцыйных, дарожных чэкаў.

У гэтым годзе плануецца ўкараніць афармленне дагавораў ф'ючэрса, траставыя паслугі.

# РУБЕЛЬ, УКЛАДЗЕНЫ Ў ВЫТВОРЧАСЦЬ

***Уладзімір НАВАРКА, дырэктар дэпартамента крэдытавання, намеснік генеральнага дырэктара***

Сёння многія банкі даймаюць бясконцыя хадакі з адзінай просьбай: дапамажыце грашыма! Хапае такіх візіцёраў і ў Белпрамбудбанку. І гэта, як ні парадаксальна, зусім нармальная з'ява. Бо крэдытныя ўліванні банкаў у вытворчасць — заканамерны працэс сусветнага гаспадарчага развіцця. Праўда, у нашай краіне ўсё гэта звязана з рэзкім спадам выпуску прадукцыі, недахватам у прадпрыемстваў уласных абаротных сродкаў. І тут крэдыты з'яўляюцца свайго роду выратавальным кругам у бушуючым моры эканамічных нягод і катаклізмаў.

Зыходзячы з абстаноўкі на рынку банкаўскіх паслуг, АКБ «Белпрамбудбанк» пастаянна ўдасканальвае сваю крэдытную палітыку. Характэрным у гэтых адносінах быў і мінулы год. Усяго за 12 месяцаў крэдытныя ўкладанні ў народную гаспадарку склалі 7626 мільярдаў рублёў, што ў тры з лішнім разы больш, чым у папярэднім годзе.

Крэдыты банка ў значнай меры спрыялі больш паспяховай рабоце прамысловых прадпрыемстваў, базавых галін народнай гаспадаркі, асваенню імі новых тэхналогій, выпуску канкурэнтаздольнай прадукцыі і тавараў народнага спажывання. На гэтыя мэты выдаткавана каля 42,3 працэнта ўсіх крэдытных укладанняў у эканоміку. Акрамя гэтага, крэдытавалася закупка важнейшых відаў харчавання, сыравіны і камплектуючых для пашырэння выпуску тавараў і г. д. На гэтыя мэты выдзелена 289 мільярдаў рублёў.

Значныя аб'ёмы грашовых сродкаў выдзяляліся на падтрыманне неабходных тэмпаў жыллёвага будаўніцтва. Аб'ём крэдытных укладанняў у гэтую сферу дасягнуў 98,5 мільярда рублёў. А на капітальнае будаўніцтва, рэканструкцыю і тэхнічнае пераўзбраенне было выдзелена звыш 137 мільярдаў рублёў крэдытных сродкаў. 262 мільярды рублёў (17,2 працэнта ад сумы ўсіх крэдытаў) пайшло на канверсію, папаўненне ўласных абаротных сродкаў прадпрыемстваў.

Для структурнай перабудовы эканомікі рэспублікі Белпрамбудбанк сумесна з прадпрыемствамі разглядаюць доўгатэрміновыя інвестыцыйныя праекты. У прыватнасці, банк у гэтым плане пайшоў насустрач патрэбам вядомага на Віцебшчыне завода «Эвістар». У мінулым годзе гэтаму прадпрыемству для арганізацыі серыйнага выпуску паглыбных артэзіянскіх помпаў, вакуумна-ўпаковачных машын і іншых вырабаў банк выдаў на тры гады крэдыт на агульную суму 23,2 мільярда рублёў. Менавіта рэалізацыя гэтай праграмы забяспечыць ужо ў гэтым годзе рост аб'ёмаў вытворчасці ў 2,8 раза.

Ахвотна карыстаецца паслугамі Белпрамбудбанка і вядомае ў краіне мінскае акцыянернае аб'яднанне «Атлант». Вось і ў мінулым годзе з мэтай асваення рынкаў у краінах СНД і далёкага замежжа, а таксама падрыхтоўкі да выпуску якасна новых халадзільнікаў «Атлант» звярнуўся ў банк па грашовую дапамогу. На мадэрнізацыю тэхналагічных ліній і закупку новых матэрыялаў і камплектуючых яму было выдзелена 30 мільярдаў рублёў крэдыту.

У кастрычніку мінулага года Белпрамбудбанк прадаставіў доўгатэрміновы крэдыт у суме 20 мільярдаў рублёў віцебскаму вытворчаму аб'яднанню «Віцязь». Гэтыя сродкі прызначаліся для папаўнення ўласных абаротных сродкаў, што ў сваю чаргу спрыяла стабілізацыі фінансавага становішча прадпрыемства, нарошчванню выпуску прадукцыі.

Доўгі час ліхаманіла акцыянернае таварыства «Этон», што ў Новалукомлі. Недахват сродкаў паставіў вытворчасць на мяжу банкруцтва. І тады акцыянеры звярнуліся па дапамогу ў Белпрамбудбанк. Спецыялісты банка старанна вывучылі праект мадэрнізацыі вытворчасці, унеслі адпаведныя карэктывы. З мэтай асваення новых відаў прадукцыі прадпрыемству выдзелілі крэдыт у суме 15 мільярдаў рублёў тэрмінам на 3 гады. Рэалізацыя гэтага праекта дасць магчымасць ужо ў гэтым годзе больш чым удвая павялічыць выпуск прадукцыі.

Сёння з поўнай упэўненасцю можна заявіць аб тым, што без крэдытных уліванняў не выжыла б такое вядомае ў краіне вытворчае аб'яднанне, як «Гомсельмаш». Менавіта грашовая ін'екцыя забяспечыла стабілізацыю вытворчасці ў другім паўгоддзі мінулага года, а сёлета дазволіць павялічыць выпуск прадукцыі прыкладна на 78,1 працэнта, значна пашырыць наменклатуру вырабаў, наладзіць выпуск прычапнога камбайна «Палессе-1400» і г. д.

Выдаючы крэдыты, банкі ў пэўнай ступені рызыкуюць сваімі капіталамі. Каб зменшыць ступень рызыкі, імкнуцца ўважліва прааналізаваць фінансавае становішча пазычальнікаў, наяўнасць залогавай маёмасці, узважанасць прапануемых бізнес-планаў і г. д. Менавіта дзякуючы праводзімай рабоце па своечасоваму вяртанню выдадзеных пазык удалося значна знізіць пралангіраваную і пратэрмінаваную запазычанасць. У канцы мінулага года пралангіраваныя крэдыты складалі ўсяго 3,3 мільярда рублёў — 0,2 працэнта сумарнай запазычанасці, а пратэрмінаваныя — адпаведна 107 мільярдаў, ці 7,1 працэнта.

АКБ «Белпрамбудбанк» аказваў таксама лізінгавыя і трастывыя паслугі. Так, у мінулым годзе набыта і перададзена ў лізінг абсталявання і машын на 1 мільярд 715 мільёнаў рублёў, у выніку атрыманы даход 1 мільярд 11 мільёнаў рублёў.

Рубель, укладзены ў вытворчасць, павінен працаваць. Менавіта структура крэдытнага партфеля АКБ «Белпрамбудбанка» пацвярджае гэтую старую банкаўскую ісціну.



**Шмат цяпер клопатаў у дырэктара дэпартамента разлікаў, бухгалтарскага ўліку, касавых і іншых аперацый Анатоля Пятровіча ДУДКІНА. Апрача чыста фінансавых аперацый, яму даводзіцца займацца і шэрагам іншых спраў. У прыватнасці, нядаўна Нацыянальным банкам Белпрамбудбанку (у ліку першых у рэспубліцы) выдадзена ліцэнзія на работу з каштоўнымі металамі і камянямі.**

**НА ЗДЫМКУ: Анатоль ДУДКІН у службовым кабінеце.**

# СТАТУТНЫ ФОНД БАНКА

***Васіль ГРЭК, начальнік упраўлення каштоўных папер***

Свайго роду візітнай карткай банка з'яўляецца статутны фонд. Калі зыходзіць з гэтага агульнапрынятага правіла, дык статутны фонд Белпрамбудбанка па выніках пяці падпісак і павелічэння намінальнага кошту акцый у канцы мінулага года складаў больш як 49,9 мільярда рублёў, ці 3,5 мільёна ЭКЮ, што перавышае ліміт максімальнай велічыні статутнага фонду, вызначаны Нацыянальным банкам для камерцыйных банкаў. Дарэчы, гэта адзін з самых высокіх паказчыкаў у банкаўскай сістэме рэспублікі.

Статутны фонд банка раздзелены на 62.428.226 акцый намінальным коштам 800 рублёў за кожную. У сваю чаргу яны дзеляцца на 60.793.221 простую імянную і 1.635.005 прывілеяваных імянных акцый. Па формах уласнасці дзяржаўная доля займала ў мінулым годзе 17,3 працэнта, калектыўная — 23,9 і прыватная — 58,8 працэнта. Колькасць акцыянераў банка складае 16.000 юрыдычных і фізічных асоб, з іх 42,6 працэнта — юрыдычныя асобы, а 57,4 працэнта — фізічныя.

Атрыманы за справаздачны перыяд прыбытак забяспечыў высокую даходнасць акцый. Нават нягледзячы на чатырохразовае павелічэнне статутнага фонду, за мінулы год банк выплаціў сваім акцыянерам дывідэнды ў суме 56.298,9 мільёна рублёў — з разліку 983 рублі на адну прывілеяваную акцыю і 899 рублёў — на адну простую. З улікам праведзенага павелічэння кошту акцый сумарная даходнасць іх у мінулым годзе склала 751 працэнт.

Хуткімі тэмпамі нарошчваецца агульная сума капіталу Белпрамбудбанка. Напрыклад, за мінулы год яго аб'ём вырас у 2,2 раза і склаў 486.731 мільён рублёў. Велічыня капіталу банка пастаянна падтрымліваецца на ўзроўні нацыянальных і сусветных патрабаванняў. У той жа час узровень дастатковасці капіталу (каэфіцыент плацежаздольнасці) на канец года склаў 15,7 працэнта пры ўстаноўленым Нацыянальным банкам нарматыўным значэнні гэтага паказчыка на ўзроўні 8 працэнтаў. Узровень капіталізацыі актываў і абавязацельстваў банка адпавядае сусветным стандартам, вызначаным Базельскім канвергенцыйным пагадненнем.

# ХТО СТАНЕ ПОПЛЕЧ

***Канстанцін ЦЫБУЛЬКА, намеснік начальніка ўпраўлення па рабоце з кадрамі***

Як і ва ўсякай іншай справе, паспяховая работа банка ў многім залежыць ад кваліфікацыі яго служачых, іх адносінаў да справы. Менавіта на гэта цяпер скіравана галоўная ўвага. Разам з удасканаленнем абслугоўвання кліентаў, пашырэннем спектра паслуг расце і колькасць работнікаў банка. За мінулы год штат банка павялічыўся на 17 працэнтаў і склаў на 1.01.96 г. 4730 чалавек. Пры гэтым колькасць спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй павялічылася на 348 чалавек, ці на 20 працэнтаў, з сярэдняй спецыяльнай — на 203 чалавекі, ці на 16 працэнтаў. Цяпер у банку працуюць 1045 высокакваліфікаваных эканамістаў, 1315 бухгалтараў, 106 інжынераў, 173 праграмісты. Усяго з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй занята 3546 чалавек, ці 75 працэнтаў ад агульнай колькасці працуючых.

Прыём на работу ажыццяўляўся на кантрактнай аснове. Укамплектаванне вакантных пасад рабілася ў першую чаргу маладымі і перспектыўнымі спецыялістамі. У 1995 годзе на работу ў банк запрошаны выпускнікі Беларускага эканамічнага універсітэта і іншых ВНУ. Прымяняецца таксама практыка накіроўвання выпускнікоў сярэдніх школ на вучобу ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы за кошт сродкаў банка. Усяго цяпер ва ўзросце да 30 гадоў у банку працуюць 1482 чалавекі (31,3 працэнта ад агульнай колькасці), ва ўзросце да 40 гадоў — 3217 чалавек (68 працэнтаў).

З мэтай забеспячэння стабільнасці кадраў і доўгатэрміновай іх зацікаўленасці праводзілася работа па развіццю фонду сацыяльных гарантый для супрацоўнікаў, а таксама цеснае ўвязванне кваліфікацыі і актыўнасці персаналу з сістэмай матэрыяльнага стымулявання. Удзялялася ўвага і аказвалася матэрыяльная падтрымка старэйшаму пакаленню банкіраў — пенсіянерам.

Складаныя задачы, што стаяць перад банкам, прад'яўляюць высокія патрабаванні да прафесіяналізму супрацоўнікаў, павышэння іх кваліфікацыі. У 1995 годзе павысілі кваліфікацыю 842 кіруючыя работнікі, што на 40 працэнтаў больш, чым у 1994 годзе. З іх у Школе банкаўскага бізнесу — 248 чалавек, на курсах і семінарах — 490 чалавек, за мяжой — 104 чалавекі.

Школа банкаўскага бізнесу Белпрамбудбанка, ахопліваючы ўсю сістэму падрыхтоўкі банкаўскага сектара, пераарыентавала ў 1995 годзе сваю дзейнасць і забяспечвала падрыхтоўку спецыялістаў на сярэднім, вышэйшым і постградуальным узроўні па найбольш актуальных тэмах.



**Гэты прыгожы будынак на бульвары Луначарскага, 6 добра ведаюць многія мінчане і госці сталіцы. Тут размешчаны АКБ «Белпрамбудбанк».**



На здымку: галоўны бухгалтар банка Ганна Канстанцінаўна ВАСЁХІНА (злева) і яе намеснік, начальнік аперацыйнага ўпраўлення Ала Барысаўна МАІСЕЕВА абмяркоўваюць чарговыя задачы.

# ПРАЦАВАЦЬ НА ДАЛЁКУЮ ПЕРСПЕКТЫВУ

*Тамара ВЫСОЦКАЯ, дырэктар дэпартамента стратэгічных і тактычных накірункаў дзейнасці банка*

**Стратэгія развіцця Белпрамбудбанка ў 1996 годзе плануецца з улікам Прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь і Асноўных накірункаў грашова-крэдытнай палітыкі. Ставіцца задача забяспечыць прырост капіталу банка не ніжэй за прагназіруемы ўзровень інфляцыі. Агульная сума капіталу павінна скласці да канца 1996 года не менш за 600 мільярдаў рублёў.**

Важна таксама ўсяляк абараняць эканамічныя інтарэсы акцыянераў, не дапусціць інфляцыйнага абясцэньвання іх узносаў у статутны фонд. Нямала будзе зроблена па вырашэнню вузлавых эканамічных і фінансавых праблем кліентаў банка і пераважнай накіраванасці крэдытных укладанняў у базавыя галіны эканомікі.

У цэнтры ўвагі стаяць пытанні праводзення ўзважанай крэдытнай палітыкі, якая дазволіць знізіць рызыку аперацый пазыкі ў выніку ўдасканалення працэдуры разгляду крэдытных заявак, папярэдняга фінансавага аналізу крэдытуемых праектаў, рэгулярнага маніторынгу якасці крэдытнага партфеля, строгага выканання распрацаванай сістэмы страхавання рызыкі.

І надалей плануем падтрымліваць аптымальную ліквіднасць балансу і памеру прыбытковых актываў за кошт фарміравання сталай рэсурснай базы, дыверсіфікацыі актываў, актыўнай працы на фондавым і грашовым рынках.

Адказныя задачы стаяць і па далейшаму пашырэнню знешнеэканамічнай дзейнасці і дзелавых кантактаў з банкамі далёкага і блізкага замежжа. Атрымаюць развіццё новыя банкаўскія паслугі, будзе адпрацоўвацца механізм хуткага рэагавання на запыты сталых і патэнцыяльных кліентаў. Усё гэта робіцца дзеля таго, каб падтрымаць імідж банка, які мае высокую ступень канкурэнтаздольнасці.

Для вырашэння названых задач Белпрамбудбанк плануе значна павялічыць рэсурсную базу, сфарміраваць больш важкі крэдытны партфель, накіраваць на набыццё высокаліквідных каштоўных папер намнога больш сродкаў, чым у папярэднім годзе.

Складаныя задачы, якія стаяць перад банкам, прад'яўляюць высокія патрабаванні да прафесіянальнай падрыхтоўкі супрацоўнікаў, патрабуюць змянення стылю працы, адмовы ад вузкаспецыялізаванага падыходу пры праводзенні аперацый і аказанні паслуг кліентам.

# КАШТОЎНЫЯ ПАПЕРЫ — НА ФОНДАВЫМ РЫНКУ

*Станіслаў ЗАЛЕНСКІ, начальнік аддзела біржавых аперацый*

Белпрамбудбанк ажыццяўляе аперацыі на рынку каштоўных папер: купляе і прадае дзяржаўныя кароткатэрміновыя аблігацыі, прыватызацыйныя чэкі, акцыі і даўгавыя абавязацельствы банкаў і прадпрыемстваў. Агульны кошт інвестыцыйнага партфеля банка на канец 1995 года склаў 101 мільярд рублёў, што ў 50 разоў больш, чым на пачатак года.

Рынак дзяржаўных кароткатэрміновых абавязацельстваў быў найбольш ліквідным і даходным сегментам фондавага рынку. Таму асноўны аб'ём інвестыцый накіроўваўся менавіта ў гэтую сферу. Агульная сума ўкладанняў за год склала 594,4 мільярда рублёў. Банк прыняў удзел ва ўсіх аўкцыёнах, праводзімых Міністэрствам фінансаў і Нацыянальным банкам, і набыў 32 працэнты агульнага аб'ёму эмісіі дзяржаўных кароткатэрміновых абавязацельстваў.

З'яўляючыся першасным інвестарам, банк набываў аблігацыі не толькі за кошт уласных сродкаў, але і аказваў камісійныя паслугі кліентам па іх набыццю на аўкцыёнах і другасных рынках.

Агульная сума даходаў ад аперацый з каштоўнымі паперамі за справаздачны год склала 50 мільярдаў рублёў, чысты прыбытак — 32,2 мільярда.

Аперацыі з каштоўнымі паперамі забяспечылі даволі высокі ўзровень даходнасці. Партфель каштоўных папер, што меўся ў банку, дазваляў вырашаць і праблему ліквіднасці шляхам продажу высокаліквідных аблігацый на другасным рынку.

# ДЛЯ МАКСІМАЛЬНАЙ ЗРУЧНАСЦІ КЛІЕНТА

*Людміла СІДАРОВІЧ, начальнік аддзела абароту наяўных грошай*

**Імідж банка ў поўнай меры залежыць не толькі ад памеру працэнтных ставак па ўкладах, але і ад якасці абслугоўвання.**

Менавіта гэтаму боку банкаўскай справы ўсё больш увагі ўдзяляюць кіраўніцтва і супрацоўнікі Белпрамбудбанка.

Няпроста забяспечваць своечасовую і якасную выдачу наяўных грашовых сродкаў з касы, папярэднюю падрыхтоўку грашовай наяўнасці і дастаўку яе па адрасах, інкасацыю ўсё ўзрастаючага аб'ёму выручкі. З гэтай мэтай дадаткова адкрыта 5 касавых вузлоў і 28 разлікова-касавых цэнтраў. Усяго ж у мінулым годзе аперацыі з грашовай наяўнасцю ажыццяўляліся ў 57 установах і 114 разлікова-касавых цэнтрах банка.

Для паляпшэння сэрвісу гэтых аперацый толькі за мінулы год банкам дадаткова створана 13 участкаў інкасацыі, а ўсяго іх — 26.

У выніку пашырэння сферы паслуг, якія аказваюцца кліентам па касавых аперацыях, даходы банка ўзраслі ў 12,7 раза. Акрамя таго, банкам праводзілася работа па арганізацыі чэкавай формы разлікаў. У 1995 годзе паступленні па чэках на рахункі кліентаў склалі 81,1 мільярда рублёў і павялічыліся ў 3 разы ў параўнанні з папярэднім перыядам. Заключана чэкавае пагадненне з Расійскім банкам, згодна з якім кліенты набылі чэкі «Міжкамбанка» на 164 мільёны рублёў у расійскай валюце.

Вялікая ўвага ўдзяляецца ўдасканаленню і развіццю дакументарных аперацый (акрэдытываў, інкаса, гарантый) як важнейшых разнавіднасцей банкаўскага сервісу.

Агульная колькасць дакументарных аперацый, што праведзена банкам на працягу мінулага года, вырасла больш як на 40 працэнтаў. Усё гэта садзейнічала набліжэнню паслуг да кліентаў. Адсюль і аўтарытэт банка, які пастаянна расце ў вачах яго шматлікіх кліентаў.



Клапоціцца пра ўмацаванне фінансавага становішча банка намеснік дырэктара фінансавага дэпартамента Пётр Фёдаравіч АФАНАСЕНКА (на здымку).

Значны аб'ём работ выконваюць супрацоўнікі ўпраўлення каштоўных папер (на здымку). У іх функцыі ўваходзіць работа з акцыямі, сертыфікатамі, аблігацыямі, вэксалямі.



# ВАЛЮТНЫЯ РАХУНКІ

**Валянціна БАЛАШЧАНКА, дырэктар міжнароднага дэпартамента**

Разглядаючы паказчыкі дзейнасці банка, дасведчаны чалавек абавязкова спытае: а колькі ж валютных рахункаў? Менавіта гэты паказчык у многім адлюстроўвае рэпутацыю банка: нясе кліент валюту — справы працвітаюць, абыходзіць бокам — бі трывогу. Так, за 1995 год колькасць кліентаў, якія адкрылі ў Белпрамбудбанку валютныя рахункі, павялічылася ў параўнанні з пачаткам года на 4513, у тым ліку юрыдычных асоб — на 840, фізічных асоб — на 3673. К канцу года банк праводзіў аперацыі па 9329 рахунках юрыдычных і прыватных асоб.

Найбольшую ўдзельную вагу сярод юрыдычных асоб займаюць прадпрыемствы і арганізацыі недзяржаўных формаў уласнасці, замежныя і сумесныя прадпрыемствы — 75,5 працэнта. Доля прадпрыемстваў дзяржаўнай формы ўласнасці ўзрасла на 9,1 працэнта і дасягнула 24,5 працэнта.

Павелічэнне колькасці фізічных асоб выклікана перш за ўсё пашырэннем і паляпшэннем дэпазітнага абслугоўвання. Так, калі на 1.01.95 г. рэшткі на дэпазітных рахунках грамадзян складалі 1,47 мільёна долараў ЗША, дык на 1.01.96 г. яны складаюць 4,68 мільёна долараў ЗША, рост — у 3,2 раза.

Летась у параўнанні з 1994 годам паступленне сродкаў на рахункі суб'ектаў гаспадарання ад нерэзідэнтаў павялічылася ў 2,3 раза.

Плацяжы ў свабодна канверсуемай валюце на карысць нерэзідэнтаў у параўнанні з 1994 годам павялічыліся ў 1,7 раза.

Па стану на канец года на бягучых рахунках суб'ектаў гаспадарання сума сродкаў у замежнай валюце склала 43,9 мільёна долараў, на дэпазітных — 15,7 мільёна долараў.

Сума сродкаў на рахунках грамадзян на канец 1995 года ў параўнанні з яго пачаткам павялічылася ў 4,35 раза і склала 6409,6 тысячы долараў. Змянілася структура размяшчаемых сродкаў. У адрозненне ад укладаў «да запатрабавання» доля тэрміновых дэпазітаў павялічылася да 86 працэнтаў.

У 1995 годзе Белпрамбудбанкам арганізавана работа па выдачы CASH ADVANCE (касавага авансу) па пластыкавых картках «VISA», «MASTER CARD», «DINERS CLAB INTERNATIONAL», пакупцы-продажу дарожных чэкаў «VISA», «Thomas Cook», «American Express». З 1995 года выязджаючым у Польшчу і Германію кліентам Белпрамбудбанк выдае імянныя чэкі з гарантыяй атрымання па іх сродкаў у «Дэпазітна-крэдытным банку» (РП) і «Дойчэбанку» (ФРГ).

У 1995 годзе асноўная частка дылерскіх аперацый была зарыентавана на выкананне запытаў кліентаў у размяшчэнні рэшткаў валютных сродкаў і правядзенні канверсійных аперацый. Адбылося рэзкае павелічэнне здзелак з абмежавана канверсуемымі валютамі (АКВ) — валютамі краін СНД. Аперацыі са свабодна канверсуемай валютай ускладняліся заканадаўчымі абмежаваннямі, што перашкаджаюць свабоднай канверсіі і вывазу капіталу.

Няўстойлівае становішча фінансавых сістэм краін былога СССР, што праявілася ў банкруцтве банкаў Прыбалтыйскага рэгіёна, жнівеньскім крызісе маскоўскага міжбанкаўскага рынку, прымусіла рабіць узважаную ацэнку рызыкі партнёра пры ўстанаўленні лімітаў па дылерскіх аперацыях. Для гэтага праводзіўся пастаянны збор інфармацыі аб бягучым стане партнёраў, аналіз прамежкавай справаздачнасці.

Растучая патрэбнасць у фінансавых аперацыях вызначыла структурныя змены. Павелічэнне колькасці дылераў дало магчымасць ажыццявіць іх спецыялізацыю па сегментах фінансавага рынку. Пашырэнне бухгалтарскай службы, яе аўтаматызацыя вырашылі пытанні бездакорнага ажыццяўлення пацвярджэнняў і плацяжоў па здзелках, кантролю за станам валютнай пазіцыі банка і разлікаў па аперацыях.



**Напружаная праца кіпіць у аперацыйнай зале банка. На пярэднім плане старшы бухгалтар Алена КАНДРАЦЮК.**

# КАРТКІ ЗАМЕСТ ГРОШАЙ

***Мікалай БІЛЕВІЧ, начальнік аддзела банкаўскіх картак і спецыялізаваных сістэм***

У мінулым годзе Белпрамбудбанк пёршы сярод банкаў пачаў працаваць з пластыкавымі карткамі. З верасня 1995 года сістэма ўстаноўлена і эксплуатуецца ў сталовай цэнтральнага апарату Белпрамбудбанка, а з лістапада 1995 года — ва універсаме «Рыга». Праводзіцца работа па пашырэнню кола карыстальнікаў гэтай сістэмы ў Мінску і ўстаноўцы яе ў Жодзіне і Наваполацку.

Вядзецца прапрацоўка перспектыўных накірункаў у гэтай галіне з выкарыстаннем банкаматаў, камп'ютэраў з сенсарнымі экранамі, магчымасці выкарыстання на адной пластыкавай картцы больш як адной назвы валюты.

Цяпер дастаткова залажыць картку ў прыёмны апарат касы магазіна, сталовай, як камп'ютэр у лічаныя секунды здыме з рахунку патрэбную суму грошай.

Адпадае патрэба насіць з сабой грошы. Да таго ж грошы лёгка згубіць, іх і ўкрасці могуць. Страта ж карткі такіх непрыемнасцей не нясе: у разлікова-касавым цэнтры выдадуць новую.

А вось нехта іншы па гэтай картцы грошай не атрымае — настолькі высокая ступень яе абароны.

# МІЖНАРОДНЫЯ РАЗЛІКІ

***Галіна МІХАЛЬСКАЯ, начальнік упраўлення карэспандэнцкіх адносінаў***

Значнае месца ў банкаўскай рабоце займаюць пытанні фарміравання і ўдасканалення карэспандэнцкай сеткі. У 1995 годзе Белпрамбудбанк падтрымліваў карэспандэнцкія адносіны з 460 банкамі з 62 краін свету, што больш чым удвая перавышае паказчыкі 1994 года. Банк мае карэспандэнцкія рахункі «НОСТРО» ў 88 банках.

Для забеспячэння разлікаў кліентаў банка на працягу года карэспандэнцкія рахункі былі адкрыты ў Bayerische Vereinsbank AG Athens Branch, Bangue National de Paris SA, National Bank of Sharjah, American Express Bank Ltd., New York.

Шырокая сетка карэспандэнцкіх рахункаў і адносінаў дазволіла забяспечыць кліентам банка хуткія і якасныя разлікі як за мяжой, так і ўнутры краіны. 16 беларускіх банкаў адкрылі ў Белпрамбудбанку мультывалютныя рахункі для забеспячэння разлікаў у СКВ у рэспубліцы.

Разам з пашырэннем і аптымізацыяй міжнароднай сеткі для разлікаў у СКВ Белпрамбудбанк актыўна праводзіў работу ў галіне карэспандэнцкіх адносінаў з банкамі краін СНД і Балтыі: Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы і іншымі — па забеспячэнню разлікаў у абмежавана канверсуемай валюце, у тым ліку і ў беларускіх рублях. Усяго ў банку адкрыты 132 рахункі «ЛОРО».

У 1995 годзе Белпрамбудбанк стаў клірынгавым цэнтрам па разліках у беларускіх рублях для Украінскай міжбанкаўскай валютнай біржы.

Аптымальная сетка карэспандэнцкіх адносінаў дазваляе паспяхова вырашаць праблемы паскарэння міжнародных разлікаў і развіцця аперацый і паслуг у замежнай валюце.

Пачаўшы са звычайных пераводаў, сёння банк перайшоў да розных формаў разлікаў, прынятых у міжнароднай банкаўскай практыцы, — акрэдытывы, гарантыі, інкаса і іншыя.

За справаздачны перыяд значна павысіўся міжнародны аўтарытэт Белпрамбудбанка. 11 заходнімі банкамі былі прадастаўлены крэдытныя лініі для пацвярджэння акрэдытываў і гарантый на суму 11,5 мільёна долараў.

**Долары ў руках кліента — звычайная з'ява ў банку. Цяпер у многіх абменных пунктах банка можна лёгка абмяняць рублі на долары, маркі...**



# ПА БЕЗНАЯЎНЫМ РАЗЛІКУ

***Ала ДУБЯНЕЦКАЯ, начальнік упраўлення арганізацыі разлікаў***

**Вядучае месца ў банкаўскай рабоце займаюць пытанні арганізацыі безнаяўных разлікаў. Па стану на 1 студзеня 1996 г. Белпрамбудбанк ажыццяўляў разліковае абслугоўванне 20.043 суб'ектаў гаспадарання, штодзённа выконваючы 37.445 аперацый. Пры гэтым сярэднядзённы безнаяўны плацежны абарот склаў 1,7 трыльёна рублёў.**

У сістэме банка дзейнічае лакальная сістэма апрацоўкі інфармацыі, а таксама клірынгавая сістэма разлікаў унутры рэспублікі паміж кліентамі банка, што дазволіла забяспечыць правядзенне плацяжоў у той жа дзень.

У 1995 годзе ў доследную эксплуатацыю ўкаранёна электронная плацежная сістэма «Аддалены кліент», якая дазваляе кліентам на аснове электроннай сувязі ажыццяўляць перадачу і атрыманне плацяжоў, а таксама кантроль за станам сваіх рахункаў.

У справаздачным годзе Белпрамбудбанк быў удзельнікам сістэмы тэрміновых плацяжоў унутры рэспублікі, якая дазваляе праводзіць плацяжы ад банка плацельшчыка да банка атрымальніка на працягу гадзіны.

Праводзіцца доследная эксплуатацыя разлікаў на аснове пластыкавых картак сістэмы Белкарт, якія забяспечваюць спрашчэнне і паскарэнне плацяжоў фізічных асоб за тавары і паслугі.

У мэтах пераадолення крызісу неплацяжоў Белпрамбудбанк прымаў непасрэдны ўдзел у тройчы праводзімым Нацыянальным банкам РБ унутрыбанкаўскім узаемаразліку, усяго да заліку былі прыняты 180444 дакументы на 8050 мільярдаў рублёў, фактычна залічана 14558 дакументаў на 70,6 мільярда рублёў, што складае 0,9 працэнта.

Банк прымае ад суб'ектаў гаспадарання на інкаса вэксалі, аказвае кансультацыйныя паслугі аб парадку разлікаў з іх удзелам, прадае вэксалі банка, якія з'яўляюцца каштоўнымі паперамі і надзейным плацежным сродкам.

*220678, г. Мінск, бульвар Луначарскага, 6, тэл. 33-21-10, факс 31-44-76, тэлекс 252410 AVAL АКБ «Белпрамбудбанк»*

**Матэрыялы выпуску падрыхтавалі Уладзімір ГОЙТАН, Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).**

# Вядзьмак! Рукі ўгору!!!

**ІДЗЕ трэці дзесятак гадоў, як была створана знакамітая паэма «Сказ пра Лысую гару». Ніводзін твор сучаснай беларускай паэзіі не выклікаў такой масавай цікавасці і захаплення. «Сказ» і ў першым варыянце, і з пазнейшымі дапаўненнямі перадрукоўваўся на машынках, зачытваўся да дзірак. Праз пэўны час ён быў тройчы апублікаваны ў бібліятэчцы «Вожыка».**

У 1995 годзе ў першым і другім нумарах часопіс «Крыніца» надрукаваў крыху адрозны ад вожыкаўскіх публікацый тэкст паэмы з разважаннямі аб гэтым шэдэўры вядомых крытыкаў і літаратараў. Была змешчана таксама галаваломная гутарка «Крыніцы» з «Ведзьмаком», якая выклікае не намнога менш пытанняў і роздуму аб аўтарстве, чым сам «Сказ». Несумненна, мэта інтэрв'ю (як яно стваралася ці адбывалася, вядома, відаць, толькі супрацоўнікам часопіса) — раскручванне новага вітка інтрыгі вакол паэмы. А магчыма, гэта своеасаблівая падрыхтоўка да самавыкрыцця, якое геніяльны анонімшчык, мяркуючы па публікацыі, плануе. Гаворыць жа ў постскрыптуме сваіх разважанняў паэт Уладзімір Паўлаў наступнае: «У дакладзе на апошнім, 11-м з'ездзе пісьменнікаў Беларусі намерваўся, называючы набыткі паэзіі апошняга часу, зрабіць, між намі, маленькую сенсацыю — прынародна назваць аўтара «Сказа пра Лысую гару», папрасіўшы падняцца, паказацца народу Францішка Ведзьмака Лысагорскага. Папярэдне ён нібы і згадзіўся. Пасля адмовіўся, сказаўшы, што ў яго сабрана (маюцца на ўвазе чарнавікі), пранумаравана і падшыта ў папку. Надыдзе час — і ўсё будзе перададзена ў літаратурны музей...»

Цікава, калі ж гэта здарыцца? А можа, хопіць гуляць у хованкі? Думаецца, што многія ведаюць ці здагадваюцца, хто аўтар. Той жа Паўлаў ведае, калі толькі ўсё не адбывалася нейкім дэтэктыўным чынам. А вось меркаванне паэта Васіля Жуковіча: «Калі гадаюць, хто ж аўтар паэмы, я заўсёды дзіўлюся, бо, калі ты чытаеш беларускую літаратуру, ведаеш, хто на што здатны, хто за што змагаецца, аніякай загадкі тут няма. Але ці патрэбна называць аўтара, калі гэтага не хоча ён сам? Магчыма, калі-небудзь ён **родным дзецям** (падкрэслена мной. — **Я. М.**) ці ўнукам, ці ўвогуле нашчадкам даверыць адкрыць тайну...»

Калега Жуковіча па літаратурнаму цэху, Мікола Чарняўскі, выказваецца так: «Мая думка (наконт аўтара «Сказа». — **Я. М.**) памянялася цалкам са з'яўленнем у друку рамана Ніла Гілевіча «Родныя дзеці». Калі я прачытаў яго сатырычна-гумарыстычныя раздзелы з гэтага знакамітага твора, чамусьці цвёрда верыў: «Ён, і толькі ён аўтар «Сказа пра Лысую гару». Ведаючы яго па шматлікіх гумарыстычных зборніках, я і раней падумваў пра Ніла Гілевіча, а з выхадам «Родных дзяцей» — здаецца, пераканаўся канчаткова».

Сапраўды, дзіўна, як можна гадаць аб аўтарстве, калі ўсё навідавоку. Поўнасцю згодзен з дыпламатычнымі выказваннямі Жуковіча і Чарняўскага. Адно незразумела, чаму акрамя іх, а ў «Крыніцы» разважала пра паэму два з паловай дзесяткі чалавек, ніхто не асмеліўся ўпэўнена выказаць меркаванне наконт рэальнага прозвішча Ведзьмака Лысагорскага. Ці то прыемна гуляць у няведанне, ці то нашы крытыкі і літаратары няўважліва чытаюць калег, ці асцерагаюцца за шаноўнага аўтара, каб чаго добрага яго не «з'елі» альбо не пакрыўдзілі персанажы, якіх ён сцебануў сатырычнай пугай?

На мой погляд, баяцца і асцерагацца няма сэнсу, бо Вядзьмак Лысагорскі, ён жа — упэўнены на 99 працэнтаў — Ніл Гілевіч, пабываў і не ў такіх варунках, змагаючыся за нашу мову, за нашу дзяржаўнасць. І сам народны паэт, здаецца, не асцерагаецца і ў сваіх творах часам як бы пасміхаецца: ды вось жа я ён самы! Яго раман у вершах «Родныя дзеці» — сведчанне гэтаму. Каб не быць галаслоўным, прывяду цытатку са «Сказа пра Лысую гару»:

*Ты б паглядзеў, якія страты*
*Дзяржаве чыняць «каршуны»:*
*У дактары і кандыдаты*
*Пралазяць з крадзеным яны!*

А вось цытата з «Родных дзяцей»:

*Ён не ўпусціў той час, той даты,*
*Калі агулам, сярод дня,*
*У дактары і кандыдаты*
*Папёр вучоны серадняк.*

*З усіх навук, якія вызнаў,*
*Адну засвоіў ён найлепш:*
*Як сёрбаць лыжкаю вялізнай*
*З катла грамадскага кулеш.*



***Францішак Вядзьмак-Лысагорскі (ён у капелюшы) гутарыць з супрацоўнікамі «Крыніцы».***

Ну як, падобна, што гэта ўсё належыць пяру аднаго і таго ж аўтара?

Выпадковасць? Тады паглядзіце, як пачынаецца «Замест эпілога» ў паэме:

*Ну, вось і ўсё маё сказанне,*
*І кропку ставіць мне пара.*

А вось пачатак у «Дапеўцы» ў рамане:

*Усё, чытач. Я стаўлю кропку.*

Дарэчы, прыём звароту да чытача вельмі часты ў рамане. Ёсць ён і ў «Сказе». Не пераканаліся? Яшчэ што-небудзь прывесці ў доказ? Калі ласка! Вось як Вядзьмак-Лысагорскі малюе фігуру жанчыны ў «Сказе»:

*Не сухарэбрына, не плюндра,*
*Дай божа — баба! Як абняць!*

І замалёўкі ў «Родных дзецях»:

*І — сухарэбрая гаргара,*
*Яшчэ й гундосая прытым!*

*А ўсё адно падчэпіць плюндру*
*І ў рэстаран паіць вядзе.*

Зноў выпадковасць? Ды не! Надта ж многа такіх «выпадковасцей», калі нават павярхоўна прааналізаваць ананімную паэму і раман у вершах.

І той, і гэты твор напісаны чатырохстопным ямбам з адной і той жа схемай рыфмоўкі. Многія беларускія паэты карысталіся і карыстаюцца гэтым распаўсюджаным памерам, але ямб, якім пісаў ананімны аўтар і якім піша Ніл Гілевіч, своеасаблівы, афарбаваны непаўторнай віртуознасцю, арыгінальнымі літаратурнымі прыёмамі, спецыфічным сінтаксісам і пунктуацыяй; адным словам — почыркам! І ці не пра тое ж самае сказана ў «Родных дзецях»:

*Ну, што ж: вялікі свет парнаскі!*
*А мне й на гэты раз, браткі,*
*Слугуе ямб — тутэйшы, наскі,*
*Рухомы, гібкі, трапяткі.*

І ў паэме, і ў рамане аўтар вельмі часта робіць адступленні ці нейкія ўдакладненні і выказванні, заключаючы іх у дужкі. Гэты прыём характэрны для творчасці Ніла Гілевіча. Лексіка абодвух твораў таксама падобная: і там, і там сустракаюцца характэрныя словы — «гэны», «скора», «братка», «панове», «закусь», «звяр'ё», «груца», вышэйпамянёная «плюндра» і «плёндрыць». Дарэчы, апошнія два я не знайшоў у слоўніках і не прыпамінаю, каб хто іншы імі карыстаўся.

Ніл Гілевіч вельмі любіць і ўдала прымяняе ў сваёй творчасці здвоеныя праз злучок дзеясловы і асабліва назоўнікі. Іх у паэме і ў рамане — цэлыя россыпы. Вось толькі некаторыя:

крамзоліць-піша, падстрыгаў-раўняў, пэцкаль-абармот, фальсіфікатар-плагіятар, мудрэц-прафесар, цюхцяі-цельпукі, будкі-прыбіральні («Сказ пра Лысую гару»);

зірні-паглядзь, пуляць-пладзіць, кіўнуў-міргнуў, айцец-герой, алкаш-сусед, зірк-погляд, жанчына-дзіва, ручайкі-крынічкі, магілы-курганы («Родныя дзеці»).

А вось некалькі выкрывальных штрышкоў-цытат з некаторымі аднолькавымі словамі: «Як толькі з буськай ён палезе» («Сказ») — «Яна сама пайшла захватна// На буську буськаю сваёй» («Родныя дзеці»), «не больш чым Ставераў «сцішок» («Сказ») — «Зірнула ў прыцемку: «Сцішок?!» («Родныя дзеці»), «Баюся: вельмі ж гіцаль спрытны» («Сказ») — «Як толькі вынюхае, гіцаль» («Родныя дзеці»), «Было б адмовіцца, дальбог!» («Сказ») — «І мне шкада цябе, дальбог!» («Родныя дзеці»).

Неаднаразова і ў «Сказе» і ў «Родных дзецях» пры размове аб пэўнай групе людзей выкарыстоўваецца слова гурт:

*Як ён глядзеў на гэты гурт*

*Сядзелі гуртам ля цяпла*

*Адзінакроўны гурт дзяліць!..*

***(«Сказ»)***

А й паказаць, каб гурт прыкмеціў

І сапраўды, з гумна да гурту

Хоць чуўся гурт правамі роўны

***(«Родныя дзеці»)***

Ніл Гілевіч нярэдка ўжывае ў сваёй творчасці паланізмы. Ёсць іх шмат і ў паэме «Сказ пра Лысую гару». Вельмі часта ў паэме сустракаецца слова «пісакі». Крыху збянтэжыла мяне яго адсутнасць у рамане. І ўсё-такі адчуў: у іншых творах народнага пісьменніка яно павінна быць. Так яно і аказалася. У кніжачцы «Дыялогі на бягу», якая была выдадзена ў бібліятэчцы «Вожыка» ў 1990 годзе, зноў такія радкі:

*Сёння дзень мне даўся ў знакі!*
*Як стрываў я — знае бог.*
*Аж да вечара пісакі*
*Абівалі мой парог.*

І глядзіце ўважліва далей:

*Кожны з папкаю пузатай*
*Ці з бавулам у руцэ.*
*Бач іх, хочуць поўнай зяпай*
*Есці клёцкі ў малацэ.*

*О, пісакі! Вашы творы*
*Абмінае наш народ.*
*Дык замрыце! Кіньце пёры!*
*І сюды спыніце ход!*

***(«Чым не мара? Запіс у дзённіку выдаўца».)***

Чым не дадатак у «Сказ пра Лысую гару»? За выключэннем невялічкага адрознення ў памеры, той жа стыль і віртуознае валоданне пяром! Не ўтрымаюся, каб не прывесці яшчэ некалькі чатырохрадкоўяў з верша «Спрэчка над Іслаччу»:

*Не на з'ездзе, не на сходзе,*
*А над Іслаччу ў бары*
*Усхадзіліся ў нягодзе*
*З горкім лёсам песняры.*

*Спрэчка ўзнікла нечакана:*
*— Мы ссівелі ўжо — і што ж?*
*Дзе адзнакі? Дзе пашана?*
*Нас не цэняць ані ў грош.*

*Так успыхнуў бліскавічна*
*Сапраўды сівы паэт*
*І ўсміхнуўся іранічна*
*У адказ яму сусед:*

*— Гэ! Каб сёння майстру слова*
*Велькі гонар заслужыць —*
*Перш за ўсё, як прадумова,*
*Трэба доўга-доўга жыць!*

*Трэба, дыхаючы роўна,*
*Без надрыву і згрызот,*
*Мець бычынае здароўе*
*Да васьмідзесяці год!..*

*— Славу дзеляць не па ўзросту, —*
*Запярэчыў трэці бард. —*
*Дапяеш да дзевяноста —*
*І не будзеш цэшкі варт!*

*Калі ты на лацкан з драпу*
*Хочаш знакі надзяваць —*
*Трэба ўмець, брат, храпу, храпу*
*Шырачэзна надзімаць!*

Пачаў цытаваць і ніяк не мог спыніцца, ледзь не ўвесь верш хацелася прывесці цалкам.

Не ведаю як вы, а я ўпэўнены ў сваёй версіі. Нілу Гілевічу ў той час, калі стваралася паэма, было каля сарака. За плячамі — некалькі таленавітых кніжак паэзіі. У сэрцы — малады запал, энергія. У галаве — розум і крытычны погляд на грамадства, на сябе і на іншых. Душа перапоўнена, як і цяпер, любоўю да мовы, да шматпакутнай Айчыны. Усё гэта і вылілася ў паэму.

Зрэшты, вопыт напісання твораў не для друку ўжо быў. Аб гэтым гаворыцца ў аўтабіяграфічнай аповесці «Перажыўшы вайну». Аўтар успамінае, як ён у юнацкія гады пісаў «сцішкі» (!) і як у час вучобы ў педвучылішчы ствараў сатырычныя і гумарыстычныя паэмы. Вось сёе-тое з успамінаў:

«Пісаліся і рэчы, не разлічаныя нават на насценгазету, а толькі для чытання ў сваім вузкім сяброўскім коле, у якасці студэнцкага фальклору. Асаблівая папулярнасць выпала на долю паэмы-кулакіяды пра бойку нашых студэнтаў з маладымі рабочымі інструментальнага завода, які знаходзіўся зусім непадалёк ад педвучылішча.

...Мабыць, таму, што размова ў паэме ішла пра здарэнне, якое доўга бударажыла вучылішчную грамадскасць, і таму, што ў ёй фігуравалі дзесяткі знаёмых імён, пададзеных у гумарыстычным кантэксце, «Кулакіяда» адразу ж стала сенсацыяй, пайшла па руках.

...«Сур'ёзных» вершаў я нямала чытаў у газетах і часопісах — і ад чытання іх рабілася вельмі сумна. А хацелася слова жывога, шчырага, нязмушанага. ...гэта — тое, чым штодзённа жыў, — натуральна і свабодна вырывалася з душы само; хай сабе бытавое, дробязнае, і не для друку, а для сяброў-таварышаў, — затое і не па ўказцы крытыкі, не па настаўленню і парадах глыбакадумных «вучыцеляў». Ва ўсякім разе, душа гаварыла як магла і як хацела. Таму і наступная паэма «Фрагменты», напісаная восенню пяцідзесятага года, была цалкам прысвечана нашаму інтэрнацкаму быту, паўсядзённым студэнцкім клопатам, і зноў жа — з прыцягненнем канкрэтных імён і рэалій і з падачай іх — зноў жа — у гумарыстычным плане».

Прывяду некалькі радкоў з той даўняй гілевічавай «Кулакіяды»:

*Яшчэ гісторыя, напэўна,*
*Такіх не ведала падзей:*
*На мірны зал наскочыў гнеўна*
*Атрад узброеных людзей.*

*Важак наперад выйшаў горда,*
*Міколу жудасцю праняў*
*І запытаўся: «Помніш, морда,*
*Каго дагэтуль выганяў!..»*

*Суровы наш дваццаты век,*
*Але павінен быў здзівіцца,*
*Як сталі рэзацца, давіцца*
*У зале дзвесце чалавек!*

Параўнайце першы радок апошняга чатырохрадкоўя з такім радком:

*Наш век суровы пэўнасць любіць*

***(«Сказ»)***

Дык ці не ўздумаў праз нейкія два дзесяткі гадоў трасянуць чупрынай шаноўны ўжо паэт і, успомніўшы юнацтва і свае вопыты ў напісанні паэм не для друку, ці не стварыў шэдэўраў пра жыццё-быццё пісьменнікаў, не думаючы, не гадаючы аб грандыёзным поспеху? Мусіць, так!

Ну, а як усё здзяйснялася, з чаго пачыналася, як рассылаліся рукапісы ў рэдакцыі і ў дзяржаўныя ўстановы, хто яшчэ ведаў пра таямніцы паэмы, можна толькі гадаць.

Ва «Уступе да другога, дапоўненага выдання» Вядзьмак Лысагорскі пісаў:

*Прабеглі дні, мінулі тыдні,*
*Няўгледна месяцы імчаць,*
*А нашы крытыкі, як злыдні,*
*Пра мой праўдзівы сказ маўчаць.*

І ў заключнай частцы «Замест эпілога» — вядомыя радкі:

*А хто пісаў паэму гэту*
*І дзе тварыў ён, і калі —*
*Навечна канула у Лету —*
*І толькі бурбалкі пайшлі.*

*Адкрыцця гэтага не зробіш —*
*Хоць зад натрэ да мазалёў —*
*Ні крот Сцяпан Александровіч,*
*Ні кротус Генус Кісялёў!*

Выклік быў кінуты. Я, хоць і не крытык, прыняў яго. Думаецца, прафесіянальныя крытыкі зробяць больш глыбокія і шырокія даследаванні ў накірунку, які мне здаецца правільным. Ды і Ніл Сымонавіч, відаць, павінен адрэагаваць пэўным чынам: надта ж многа агульнага ў творах Лысагорскага і Гілевіча.

**Янусь МАЛЕЦ.**

*7—11 лютага 1996 г.*

**P. S.** ***Стварэнне паэмы прыпісвалася ў кулуарах і А. Астрэйку, і А. Бялевічу, і М. Аўрамчыку, і Р. Барадуліну і іншым вядомым паэтам. Несумненна, гэтыя аўтары патэнцыяльна, можа, і змаглі б напісаць нешта тоеснае, але ўсё роўна почырк быў бы не той.***

***І яшчэ адзін цікавы момант, які кінуўся нечакана ў вочы, як тая парушынка, а таму хочацца на яго звярнуць увагу. У дадатку да паэмы — ён называецца «Хто адкрые аўтара» — і друкаваўся толькі ў «Крыніцы» — ёсць такія радкі:***

*Панове! Творца гэтай рэчы —*
*Ні аксакал, ні саксаул.*

(Падкрэслена мной. — **Я. М.**)

***А ці не зашыфравана тут імя творцы? Калі прачытаць злучнік «ні» і апошнюю літару ў назоўніку «аксакал» (тое ж самае з другім злучнікам і назоўнікам «саксаул»), то атрымаецца «Ніл». Магчыма, гэты адказ аўтар даў сам таго не падазраючы, як кажуць, з Божай дапамогай.***

# ПАЭМА ПАВІННА

Ізноў вяртаючыся да тэмы «Сказа пра Лысую гару», мы павінны патлумачыць невыпадковасць свайго вяртання. Як першаштуршок у дадзеным выпадку можна разглядаць і артыкул Януся Малеца «Вядзьмак! Рукі ўгору!!!», напісаны без усялякай рэдакцыйнай дамоўленасці. Ужо артыкул прымусіў нас паруліцца, пашукаць і іншыя аргументы для высвятлення асобы Ведзьмака-Лысагорскага. Што з гэтага атрымалася — вы бачыце. Але заўважым: «Звязда» наўмыснага, усебаковага расследавання не праводзіла. Мы вырашылі адно толькі нагадаць пра неўміручую паэму, пра тое, што яна ёсць. І дзеля таго, што, упэўнены, сёння самы масавы чытач, можа, і прызабыў, што жыве ў век напісання «Сказа пра Лысую гару». А сёй-той з маладзейшых чытачоў мо і зусім не чытаў паэмы. І ў гэтым ваша, шаноўнае спадарства, велізарнейшая памылка.

«Звязда» мяркуе сабраць усе ананімныя паэмы апошніх дзесяцігоддзяў разам пад адной вокладкай, ды «бабахнуць» гэтак тыражом у сто тысяч па самаму шырокаму чытачу. Вось дзе ўжо людзі ўволю нарагаталіся б. І на час на сённяшні паглядзелі — праз прызму «Ачмурэння», а таксама — «Гэй, наперад! Гэй назад!» «Звязда» друкавала — у 1992 і 1993 гадах — гэтыя рэчы. А ёсць жа «Уваскрашэнне», «Як мяне ад «Талакі» адваджвалі», іншыя творы.

І ёсць жа «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе»... Ці можа быць «Сказ пра Лысую гару» ў адным з імі радзе? Гледзячы якія праводзіць паралелі, да якога параўнання імкнуцца. Адно можна смела сцвярджаць: «Сказ...» — люстэрка нашага жыцця.

Так, люстэрка, адбітак з таго балота, у якім мы ўжо да года 1975 так прыжыліся, што далей і болей няма куды. І справа тут зусім не ў перакaзе смешных акалічнасцей пісьменніцкага побыту. Ім, пісьменнікам, і без таго на арэхі даставалася і дастаецца. «Сказ...» — думаў пра гэта ці не думаў аўтар (канешне ж, думаў!) — стрэл. І не ў паветра, а ў нашы душы. Стрэл на тое і дзеля таго, каб не даць прыстыць, закарузнуць нашай дзярмовасці. І гэта ж вам не жартачкі, калі пра ўгнаенне — асобны раздзел. Каго ж вясной не дапякае клопат пра гной!? Гной, тое, наколькі лёгка альбо цяжка ён дастаецца, — вось вам адно са сведчанняў, адна з характарыстык вашага сацыяльнага становішча. Яно, вядомая рэч, ва ўсіх, як і ў пісьменнікаў, — рознае. І тут, калі хочаш быць у спакоі, жыць у дастатку, вазьмі на ўзбраенне падказанае Ведзьмаком-Лысагорскім:

*Адзін рэдактар меў удачу:*
*Купіць гуана бочку змог.*
*Прыпёр упоцемку на дачу*
*І начапіў цяжкі замок.*

*Тады на сорам чалавеку —*
*ад слаўных будняў ў баку —*
*І ўзнік ганебны лозунг веку:*
*«Гаўно трымайце на замку!»*

Паэма, прадстаўленая як рэч ананімная, здзіўляе (такога ў афіцыйнай літаратуры, напісанай з аглядкай на Галоўліт, ЦК ды КДБ, няма і не магло быць!) выключнай шчырасцю. Я ўсё задаюся пытаннем: а ці мог тады аўтар яшчэ мацней урэзаць, даць пад дых пісьменніцкай браціі, а можа і нават уладзе? А калі мог, чаму не зрабіў паэму больш вострай? Адказ, думаецца, вельмі просты. Паэма мае вастрыню згодна з сацыяльна-палітычным менталітэтам самога аўтара, яго пакалення.

У інтэрв'ю «Крыніцы» Вядзьмак-Лысагорскі заўважае ў адказ на пытанне: «Ці не было аўтарскай аглядкі пры напісанні на нашы вядомыя

# У ПОШУКАХ АЎТАРА

**Васіль ЖУКОВІЧ:**

## «АДКРЫВАЦЦА Я НЕ РАІЎ БЫ...»

***У той жа «Крыніцы» ёсць артыкул Васіля Жуковіча. Паэт піша: «Калі гадаюць, хто ж аўтар паэмы, я заўсёды дзіўлюся, бо, калі ты чытаеш беларускую літаратуру, ведаеш, хто на што здатны, хто за што змагаецца, ніякай загадкі тут няма. Але ці трэба называць аўтара, калі гэтага не хоча ён сам? Магчыма, калі-небудзь ён родным дзецям ці ўнукам, ці ўвогуле нашчадкам даверыць адкрыць тайну...» Янусь Малец падкрэсліў у дадзеным выпадку: «...родным дзецям».***

**— Значыць, і вы перакананы, што «Сказ пра Лысую гару» напісаў Гілевіч?**

— Якраз не. Хаця па свайму складу паэма носіць гілевічаўскі характар. Але ў дадзеным выпадку мы бачым яскравы прыклад стылізацыі.

**— Хто ж тады аўтар «Сказа пра Лысую гару»?**

— Яго імя добра вядома ў коле літаратараў. І я дзіўлюся, што вы раскручваеце новы віток пошукаў. Пісьменнікі знаёмыя з сапраўдным прозвішчам Ведзьмака- Лысагорскага. Гэта вельмі сумленны, чэсны, аўтарытэтны чалавек.

**— Дык назавіце ўслых... Ведаюць пісьменнікі — няхай ведаюць і наогул чытачы...**

— Не, асабіста я не буду гаварыць. Няхай Вядзьмак- Лысагорскі сам вырашае, няхай падумае.

**Рыгор БАРАДУЛІН:**

## «ХІБА Ж ШУКАЮЦЬ АЎТАРАЎ КАЗАК?..»

**— Хто ж напісаў «Сказ пра Лысую Гару», Рыгор Іванавіч?**

— Я асабіста перакананы, што шукаць аўтара не трэба. Няхай «Сказ пра Лысую Гару» застаецца творам ананімным, фальклорным. Хіба ж шукаюць аўтараў казак?.. Тады як усе казкі ў першай сваёй рэдакцыі мелі, безумоўна, аднага аўтара. Увесь народны фальклор аўтарскі, і «Сказу пра Лысую Гару» наканавана быць фальклорнай рэччу. Між іншым, у народа да фальклору праяўляецца большы давер. У песнях, прыдумках, загадках, анекдотах адсутнічае заангажыраванасць, палітызаванасць. Фальклор заўсёды аб'ектыўны, незалежны.

**— Ці часта пішуцца рэчы, падобныя да «Сказа»? Калі нам чакаць чарговага ўсплёску інкогніта «лысагорцаў»?**

—Наогул калі гаварыць пра нейкую сістэму ў беларускай літаратуры, то такога і не было. Іншая справа, што былі напісаны рэчы, якія падоўгу не друкаваліся. Як, напрыклад, і мая паэма «Смаргонская акадэмія». Пісаў жа яе для друку, а не ў стол, а з моманту напісання да публікацыі прайшло 10 гадоў.

«Сказ пра Лысую Гару» — працяг больш даўняй традыцыі, працяг традыцыі «Тараса на Парнасе». Такія паэмы з'яўляюцца ва ўмовах таталітарызму.

**— Цяжка пытацца «ў лоб», але вярнуся да пачатку размовы. Рыгор Іванавіч, назавіце ўсё ж, каго вы падазраяце ў аўтарстве «Сказа пра Лысую Гару»?**

— Калі шукаць аргументы ў высвятленні ісціны ў стылёвых прыметах, то варта заўважыць, што стыль досыць традыцыйны. А ў дадзеным выпадку нават можна сказаць наўмысна традыцыйны. Як і ў паэме»Тарас на Парнасе», у «Сказа пры Лысую Гару» той жа памер. Але відавочна і другое: якраз у традыцыйнасці, у размытым, агульнаватым стылі і заключаецца імкненне схаваць асобу аўтара. Паэт выступае ў дзвюх ролях — і ад імя народа, і як быццам ад імя чужой асобы.

З магчымых, мяркуемых аўтараў я схільны назваць Алеся Звонака. Пры вонкавай аблегчанасці «Сказа...» напісана ўсё ж бліскуча. І гэта мог зрабіць чалавек, які валодае словам, пяром на высокім прафесіянальным узроўні. На карысць Звонака гаворыць і тое, што ён значыцца сярод распрацоўшчыкаў, пачынальнікаў самой Лысай Гары. Звонак — той чалавек, які жыў сярод «лысагорцаў», карэнны жыхар, словам.

**— Звонак абраны вамі. А называюцца ж яшчэ многія імёны. І як вы ставіцеся да гэтага?**

— У свой час адкрывацца было крыху і небяспечна. Гавораць нават такое: Машэраў па дружбе спытаў у Вялюгіна: «Анатоль, ці не ты напісаў «Сказ пры Лысую Гару»?» Вялюгін збянтэжана-спужана адмовіўся. «А шкада, добра напісана», — заўважыў Машэраў.

Паэма не закранае сацыяльных, палітычных момантаў. «Сказ...» — забава для партыйных кіраўнікоў, якія паблажліва ставіліся да літаратараў. Пісьменнікі, калі глядзець на «Сказ...» з другога боку прыпадобніліся да той унтэр-афіцэрскай удавы, якая сама сябе высцебала.

Некаторыя з тых, хто маецца на ўвазе як аўтар паэмы, вытрымліваюць паўзу, чым даюць падставу лічыць іх за стваральнікаў «Сказа пра Лысую Гару».

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ:**

## «ЗДАВАЛАСЯ, ТАЯМНІЦА ВОСЬ-ВОСЬ ПРЫАДКРЫЕЦЦА...»

**— Калі я не памыляюся, Анатоль Ільіч, вы падчас з'яўлення паэмы працавалі ў штаце Саюза пісьменнікаў і былі, так бы мовіць, у гушчы пісьменніцкага жыцця... Якое ваша меркаванне?**

— Сапраўды, я быў сведкам таго памятнага моманту, калі на адрас Саюза пісьменнікаў (яго сядзіба знаходзілася тады па вул. Энгельса, 9) прыйшоў па пошце асобнік паэмы ў канверце канцылярскага фармату. Быў, такім чынам, адным з першых чытачоў «Сказу» і, значыць, адным з тых, хто ўпершыню ацэньваў, аналізаваў, перакідваў паэму, вобразна кажучы, як гарачую бульбіну, з далоні на далонь, ну і, вядома, задаваўся пытаннем, хто ж гэта такі за новаяўлены, таямнічы паэт — Францішак Вядзьмак-Лысагорскі.

Прыгадваю, што Ніл Гілевіч з самага пачатку каціраваўся як адзін з патэнцыяльных аўтараў паэмы. Так што Янусь Малец не адкрывае нам Амерыку (ці, у дадзеным выпадку, егіпецкі Ніл). Прызнаюся яшчэ, што мелі месца абставіны і размовы, у выніку якіх, здавалася, вялікая таямніца вось-вось прыадкрыецца. Праз адзін такі факт, так і быць, раскажу. Неяк па дарозе ў Саюз пісьменнікаў спыніў раптам унутраны позірк на наступных радках паэмы:

*Быў час, быў век, была эпоха,*
*Калі, наеўшыся ў адвал,*
*Сёй-той прыкінуў, што панчоха —*
*Зусім не кепскі ідэал,*
*Калі арлы ляцелі ў космас —*
*Ім крылы зорамі пякло,*
*А кажаны з руціны коснай*
*Насілі харч сабе ў дупло.*

Прамовіў у думках гэтыя радкі і ледзь не ўсклікнуў: Панчанка! Гэта ён, Пімен Панчанка. Яго пафас, яго стыль, яго мова... Прыходжу ў Саюз, падымаюся на другі паверх, дзе быў рабочы стол Пімена Емельянавіча як сакратара праўлення. Ён якраз на месцы. Адзін. Нікога больш у пакоі няма. Выкладваю тут жа сваю здагадку. Пімен Емельянавіч з уласцівай яму шырокай усмешкай слухае мяне і потым гаворыць. «Ну што ж, значыць недарэмна працавалі. Не прапала праца...»

Спадзяюся, што запомніў і перадаю пачутае колькі гадоў таму амаль даслоўна. І цяпер вось думаю зноў, што ўсё ж маглі значыць тыя словы, той адказ — хоць і не зусім канкрэтны, але як быццам бы станоўчы. Тут, відаць, можа быць некалькі тлумачэнняў. Першае. Панчанка паўадкрытым тэкстам прызнаецца, што меў дачыненне да стварэння «праўдзівага сказу» — ці то як адзін з сааўтараў, або як аўтар асобных строфаў, ці то як рэдактар. Другое, больш, мабыць, верагоднае: ён толькі даў знаць, што, як кажуць, у курсе справы, ведае ў твар Вядзьмака-Лысагорскага. Трэцяе, можа быць, самае простае: Пімен Емельянавіч зразумеў маю здагадку ў тым сэнсе, што я аддаю яму належнае як майстру слова, пад уплывам якога была напісана некім другім паэма. У такім разе, інакш кажучы, для «эўрыка!» у мяне не было дастатковай падставы...

Цяпер наконт версіі Януся Мальца. Хоць яна, як я ўжо казаў, і не зусім новая, але на гэты раз адпаведна даведзена, мае пад сабой даволі пераканаўчую аргументацыю.

У тым ліку і з пункту гледжання такой дысцыпліны, як лінгвістыка тэксту. У мяне няма сумнення, што аўтар «Родных дзяцей» не мог напісаць «Сказ пра Лысую гару».

Але пільная грамадская патрэба або літаратуразнаўчая неабходнасць тэрмінова, у алармным парадку «выкрываць» аўтара паэмы? Здаецца, няма. Тым больш, што праблему ганарара рэдактары «Вожыка» вырашаюць і без таго паспяхова. Пераводзяць яго на рахунак

Па-другое, не зусім правамерна (не кажу ўжо пра далікатнасць) патрабаваць ад мяркумага аўтара, ледзь не ў тоне следчыцкага вышуку, «адрэагаваць пэўным чынам», звяртацца да яго са словамі: «Хопіць гуляць у хованкі!» Ну, а па-трэцяе, можа лепш пакінуць, не разбураць арэол таямнічасці вакол аўтарства. Чытаем жа вунь: «Творы, якія прыпісваюцца Максіму Багдановічу». Творы, якія толькі прыпісваюцца. І ад таго, што іх аўтарства канчаткова не ўстаноўлена, вартасць іх не зніжаецца. Галоўнае не хто, а што.

*Слава не ў нашых імёнах, не ў тым,*
*хто, дзе і калі, — не ў славе.*
*Слава, як вядома, дым.*
*Справа — у добрай справе.*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ:**

## «СЁННЯ Я НЕ МАГУ НАЗВАЦЬ САПРАЎДНАГА ПРОЗВІШЧА ВЕДЗЬМАКА... АЛЕ Ў «КРЫНІЦЫ» ЯГО ВЕДАЮЦЬ».

***Пагутарыць менавіта з Леанідам Галубовічам нас прымусілі наступныя абставіны. У леташняй «Крыніцы», у сёмым нумары, палова якога прысвечана «Сказу пра Лысую гару», ёсць цікавы фотаздымак. Мы перадрукоўваем яго. А подпіс у часопісе быў наступны: «Францішак Вядзьмак-Лысагорскі (ён у капелюшы) гутарыць з супрацоўнікамі «Крыніцы». Вядзьмак сфатаграфаваны са спіны. Астатнія — навідавоку. Астатнія — гэта Валянцін Акудовіч, Алесь Разанаў, Леанід Галубовіч. У каго, як не ў іх, спытаць праўду? Вырашылі пагутарыць з Леанідам Галубовічам.***

**— Давай апусцім усе ўмоўнасці і пагаворым напрамую. Мы ведаем, што «Крыніца» ведае. Усе ведаюць, што «Крыніца» з Ведзьмаком знаёмая. Ты таксама сфатаграфаваны з Ведзьмаком. Дык хто ж ён?**

— Сёння я не магу назваць сапраўднага прозвішча Ведзьмака. Але ў «Крыніцы» яго ведаюць. Была дамоўленасць з аўтарам «Сказа...». Ён павінен прынесці ў «Крыніцу» ўсе чарнавікі, рукапісы ўсе. Ёсць у Ведзьмака і дзённік спецыяльны, куды ён заносіў усе перыпетыі жыцця, скажам так, паэмы. Вось летась паэт і паабяцаў прыйсці ў «Крыніцу» з усім «лысагорскім» архівам. Пакуль чакаем...

**— І ты, відаць, Лёня, праўду не скажаш... Мо паспрабуем пашукаць аўтара, скарыстоўваючы вядомую дзіцячую гульню «горача—халодна». Я называю прозвішча, а ты мне падказку. Згода?**

— Давай паспрабуем.

**— Звонак?**

— Холадна.

**— Барадулін?**

— Цяплей.

**— Гілевіч?**

— Цёпла.

**— Астрэйка?**

— Цяплей.

**— Дык, можа, Аўрамчык?**

— Яшчэ трохі цяплей.

**— Бачу, што і з гульні ніякай праўды мы не даведаемся. Паспрабую цябе дастаць наступным чынам. Сярод названых ёсць аўтар?**

— Ніхто з тых, каго ты назваў, не з'яўляецца аўтарам паэмы... Ведаеш, сёння нікому нельга даваць веры, хто намякае на сваё аўтарства... Ёсць людзі, якія...

**— А можа, у «Сказа пра Лысую гару» тры аўтары? Можа, гэта і ёсць сапраўдная версія?**

— Можа і так.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ:**

## «У МЯНЕ АСАБІСТА СУМНЕННЯЎ НІЯКІХ НЕ ВЫКЛІКАЕ ТОЙ ФАКТ, ШТО «СКАЗ ПРА ЛЫСУЮ ГАРУ» НАПІСАЎ МІКОЛА ЯКАЎЛЕВІЧ АЎРАМЧЫК»

***У той жа «Крыніцы» вядомы паэт і празаік, сакратар праўлення пісьменніцкай арганізацыі Уладзімір Паўлаў засведчыў: «У дакладзе на апошнім 11-м, з'ездзе пісьменнікаў Беларусі намерваўся, называючы набыткі паэзіі апошняга часу, зрабіць, між намі, маленькую сенсацыю — прынародна назваць аўтара «Сказа пра Лысую гару», папрасіўшы падняцца, паказацца народу Францішка Ведзьмака-Лысагорскага. Папярэдне ён нібы і згадзіўся. Пасля адмовіўся. Значыць, Ул. Паўлаў — той чалавек, які таксама ведае ўсю праўду і, падумалася нам, павінен выкласці яе.***

**— Уладзімір Андрэевіч, ці не Ніла Сымонавіча вы мелі на ўвазе?**

— Па ўзроўню, па стылю, канешне ж, можна было меркаваць за аўтара і Ніла Сымонавіча Гілевіча. Але ж... Ёсць і такі аргумент. Ніл Сымонавіч дачы на Лысай гары не меў. А значыць, не меў на руках многіх фактаў, агучаных у «Сказе...».

Запытаўся перад з'ездам пра аўтарства ў Міколы Якаўлевіча. Ён не адмаўляўся, не адхрышчваўся. І ў мяне асабіста сумненняў ніякіх не выклікае той факт, што «Сказ пра Лысую гару» напісаў Мікола Якаўлевіч Аўрамчык. Вось і атрымліваецца, што праз 20 гадоў адкрыўся сам аўтар. Перад з'ездам я спытаў дазволу ў яго агучыць сапраўднае імя Ведзьмака. Аўрамчык не згадзіўся. Ён сказаў, што мае ўсе папкі, усе рукапісы, што напісаў завяшчанне, каб пасля смерці перадалі куды трэба. А вось, маўляў, адкрывацца яшчэ не прыйшоў час.

І я веру Міколу Якаўлевічу. Ён — найсумленнейшы чалавек. І, не ў крыўду іншым, зрабіў на грамадскіх пачатках выключную літаратурную справу.

**— У нас як быццам і пытанні ўсе астатнія адпадаюць, Уладзімір Андрэевіч...**

— А важна ж, я вам скажу, не толькі пытанне аўтарства. Важны сам факт з'яўлення «Сказа...», ды і тое, што не знікае ранейшая цікавасць да паэты. У свой час вакол «Сказа...» стварылася сапраўдная аура. У Маскве, кажуць, таксісты прадавалі выдадзеную «Вожыкам» паэму.

**Мікола АЎРАМЧЫК:**

## «Я МЯРКУЮ, МАГЛА БЫЦЬ ГРУПА, КАЛЕКТЫЎНАЯ БРЫГАДА ПА СТВАРЭННЮ «СКАЗА ПРА ЛЫСУЮ ГАРУ...»

***Здавалася б, усё прасцей простага. Паверыўшы ў сцвярджэнне Уладзіміра Паўлава, што Вядзьмак-Францішак Лысагорскі — Мікола Якаўлевіч Аўрамчык, толькі і застаецца пагутарыць са старэйшынай паэтычнага цэха. Па-першае, нават знайсці мяркуемага аўтара не так ужо і проста. Мікола Якаўлевіч ратуецца ад тлуму гарадскога на радзіме, у вёсцы Плёсы, што на Бабруйшчыне. Туды і выправіўся карэспандэнт «Звязды» — ваш пакорны слуга. Майстар розыгрышу аказаўся на ўзроўні. Ці, можа, прырода творчасці паэта і тут не падкачала. Я — у Плёсы, даехаў да самых Малліннікаў (станцыйны прыпынак па чыгунцы, хвілін сорак язды ад Бабруйска), да Плёсаў — мо з кіламетр прайсці. А Мікола Якаўлевіч, кажуць, яшчэ з раніцы ў Мінск па-даўся. Лячу назад. Трымаючы ў памяці дыялог з Уладзімірам Паўлавым, адразу ж і пытаюся:***

**— Кажуць, што вы маеце дачыненне да аўтарства «Сказа пра Лысую гару»?**

— Адкажу я так: мала хто і што кажа. Я магу думаць і казаць іначай.

**— Дык хто ж тады аўтар?**

— Я мяркую, магла быць група, калектыўная брыгада па стварэнню «Сказа пра Лысую гару».

**— І ў якім саставе?**

— Магчыма, з трох чалавек... А можа, з двух...

**— Хто ж гэтыя двое?**

— Дапусцім, Пятрусь Макаль і Артур Вольскі.

**— Чаму ж тады на іх ваш вердыкт выпаў?**

— Чаму? З падказкі аднаго з самых пакрыўджаных герояў паэмы — Алеся Кучара. Ён неяк мне сказаў, што бачыць аўтара. А далей на роспыты мае і прозвішчы назваў: Макаль і Артур Вольскі. Ды яшчэ патлумачыў, што гэта аднаму Вольскаму расказаў ён пра наступную пікантную дэталь:

*І кожны Кучару зайздросціў*
*І дэталёва ўспамінаў,*
*Як той у цырку па знаёмству*
*Браў угнаенне з-пад слана.*

**— А мне днямі адзін паэт прапанаваў наступную версію: аўтар паэмы — Вялюгін. Гэта вокны яго кватэры выходзяць на цырк. І толькі Вялюгін мог усё ведаць пра «ўгнаенне з-пад слана»...**

— Раней і я думаў пра Вялюгіна. Але ж Анатоль сам Машэраву — і я быў сведкам тае размовы — прызнаўся, што не пісаў «Сказа...».

**— Мікола Якаўлевіч, нам вельмі цікава ваша меркаванне наконт наступнай версіі: Вядзьмак Лысагорскі — Ніл Гілевіч. Мы далі вам магчымасць прачытаць артыкул Януся Малеца, які адназначна прыпісвае «Сказ...» Нілу Сымонавічу Гілевічу.**

— Што датычыцца Гілевіча, то, безумоўна, ён мог бы быць аўтарам. Шкада толькі, што доказ Януса Малеца не дужа пераканаўчы.

**— Давайце пагаворым, як гэта часта апошнім часам прынята, пра вас у трэцяй асобе. У такім разе вынікае наступнае пытанне: а ці не з'яўляецца Аўрамчык аўтарам паэмы?**

— Дык я ж не гумарыст! Увесь папярэдні паэтычны вопыт, уся папярэдняя паэтычная творчасць гаворыць супраць майго аўтарства!

**— Нам застаецца толькі верыць альбо не верыць. А як, між іншым, вы ставіцеся да той безлічы ананімных паэм, што асабліва ў апошнія гады з'явіліся на свет Божы?**

— Не думаю, што Вядзьмак Лысагорскі такі ўжо пладавіты творца. Сумніўна, што адзін Вядзьмак з'яўляецца аўтарам многіх сатырычных рэчаў. Няхай бы сапраўдныя аўтары прыдумалі сабе больш арыгінальныя, больш свежыя псеўданімы.

**Гутарыў і спрабаваў праліць святло на асобу Ведзьмака - Лысагорскага Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ПЕРАЖЫЦЬ УСІХ

ананімныя творы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»: «Але мая паэма і не пнецца, каб неяк да іх дацягнуцца. Гэта, як казаў Аркадзь Куляшоў, чысты раёшнік. Дарэмна ёй надаюць такое значэнне. Яна і цікавая, і зразумелая толькі ў пісьменніцкіх колах, і калі б там героямі не былі самі літаратары, то вядомасць гэтага майго дзецішча сталася б іншаю.

Тут закрануты значныя імёны, адным — на злосць, другім — на пацеху. Найбольш удалым лічу раздзел «Вялікі рух». Дазвольце не пагадзіцца, спадар Вядзьмак-Лысагорскі! І зусім не «раёшнік» ваша паэма. «Сказ пра Лысую гару» — запатрабаванне часу, твор, бацькам якога сталіся сацыяльна-палітычныя перыпетыі жыцця. Пісьменніцкі дачны кааператыў — гэта толькі маці (хаця і такое вымярэнне значыць неймаверна многа) паэмы.

Шмат хто з чытачоў, асабліва з тых, хто найперш знаёмы з творам з чужых слоў, чакае, што за кожным радком «Сказа...» можна класціся ад смеху ўпокат. Дарэмнае спадзяванне. Паэма намнога больш шчырая, чым звычайная сатыра. І слушна пра гэта сказаў беларускі філосаф і літаратуразнаўца Уладзімір Конан. Менавіта ён падкрэсліў, што «Сказ...» напоўнены гратэскам.

Пра ананімнасць паэмы. Насуперак аргументам Януся Малеца адзін з нашых субяседнікаў назваў аўтарам «Сказа...» Міколу Якаўлевіча Аўрамчыка. Што адказаў на нашы пытанні сам Аўрамчык — вы можаце прачытаць. Задаючыся пытаннем аўтарства, мы гаворым пра паэму ўвогуле, мы спрабуем праліць святло на акалічнасці яе нараджэння. Справа ж не ў аўтары. Хаця і ў ім таксама. Рана ці позна ўсялякая таямніца становіцца адкрытай. Ці адкрыецца пры жыцці аўтар «Сказа пра Лысую гару»? Ці раскажа пра ўсе перыпетыі нараджэння паэмы? Ці выдасць чытачу сапраўдны том успамінаў, звязаных з уваходжаннем «Сказа...» ў літаратурнае і грамадскае жыццё? А калі і адкрыецца, то ці не парушыць арэол таямнічасці, з якім жыве паэма? Пытанні. Адны пытанні.

Зразумела, што тайна жывіць, мацуе твор ці, хутчэй, — жывіць шлях паэмы да чытача. Але ж і сам па сабе «Сказ...» ужо дасягнуў тае вышыні, калі разгадка яго аўтарства наўрад ці разарве ауру гратэску, што за доўгія гады сфарміравалася вакол паэмы. Перакананы, што адкрыццё сапраўднага імя Ведзьмака-Лысагорскага толькі абудзіць, выкліча новую хвалю папулярнасці паэмы.

Магчыма, аўтара паэмы стрымлівае звычайны чалавечы страх. І баіцца ён не толькі і зусім не з-за нейкіх палітычных меркаванняў. Вядзьмак-Лысагорскі зрабіў тое ж, што адкрыта, пад уласным прозвішчам зрабіў, напрыклад, Андрэй Макаёнак (быў бы ён паэтам — вось каго па праву можна было б залічыць у аўтары паэмы!). Макаёнку дазволілі — дазволілі б і Ведзьмаку-Лысагорскаму. Не думаецца, што ён (хаця ў гэтым пераконвалі многія субяседнікі) баіцца атаясамлення з аўтарам «Лукі Мудзішчава». Апошні твор занадта прымітыўны, бедны на выяўленчыя сродкі, сапраўднай сатырай яго не назавеш. Не, Вядзьмак-Лысагорскі баіцца іншага. Ён аўтар паэмы, жыццё пражыў сярод сваіх герояў. Ён іх сябар, знаёмы, іх субяседнік і... добразычлівец. Не жадаючы нікога пакрыўдзіць, ён сказаў праўду. Пра ўсіх і ўся. На жаль, не ва ўсіх ёсць пачуццё гумару. Не ўсе могуць прыўзняцца над мітуснёй жыцця, пасмяяцца з саміх сябе. Не ўсе здольныя пазіраць на сябе збоку. Так што трывай, Францішак Вядзьмак-Лысагорскі. Будзь верны сваёй таямніцы!

